# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

## ФАКУЛЬТАТЫЎНЫЯ ЗАНЯТКІ

Л. М. Гамеза

# ГРАНІ СЛОВА: АД ГУКА ДА СКАЗА

## 5 КЛАС

## Вучэбна-метадычны комплекс

*Рэкамендавана*
*Навукова-метадычнай установай*
*«Нацыянальны інстытут адукацыі»*
*Міністэрства адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2010

# ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА

## Тлумачальная запіска

Праграма разлічана на вучняў пятага класа і звязана з курсам беларускай мовы для агульнаадукацыйных устаноў. Паколькі слова з'яўляецца аб'ектам вывучэння ў кожным раздзеле курса беларускай мовы для агульнаадукацыйных устаноў, таму работа па ўзбагачэнні слоўнікавага запасу вучняў заканамерна павінна праводзіцца на ўсіх узроўнях моўнай сістэмы. Работа па ўзбагачэнні слоўнікавага запасу спрыяе фарміраванню маўленчай культуры вучняў, авалоданню ведамі і ўменнямі, якія забяспечваюць эфектыўную маўленчую дзейнасць у тыповых сітуацыях камунікацыі.

Мэта прапанаванага курса — павысіць увагу да гукавога афармлення, семантыкі, сінтаксічнай спалучальнасці, спосабаў утварэння і складу слова з мэтай увядзення яго ў актыўны слоўнікавы запас вучняў.

Дасягненне пастаўленай мэты ажыццяўляецца шляхам вырашэння наступных задач:

а) сфарміраваць уменні вызначаць фанетыка-арфаэпічныя характарыстыкі слова, карыстацца словамі ў вусных выказваннях;

б) звяртаць увагу на выяўленне семантыкі слова і падбор да яго сінонімаў, антонімаў;

в) характарызаваць марфемную будову слова і спосабы яго ўтварэння;

г) узбагачаць слоўнікавы запас вучняў.

Пастаўленыя задачы вырашаюцца на аснове прынцыпаў навуковасці і даступнасці, пераемнасці і перспектыўнасці, сістэмнасці і паслядоўнасці, сувязі тэорыі з практыкай, актыўнасці і самастойнасці, індывідуалізацыі навучання. З мэтай развіцця цікавасці да прадмета, павышэння маўленчай культуры вучняў факультатыўныя заняткі павінны мець займальны характар.

Слова без гукавой формы не існуе. Таму без знаёмства з фанетычнай сістэмай мовы немагчыма тэарэтычнае і практычнае вывучэнне слова.

Фанетычна аформленае слова адлюстроўваецца ў алфавіце і ў правілах чытання літар і іх спалучэнняў (графічных правілах), а таксама правілах напісання і вымаўлення.

На лексічным узроўні вывучаецца семантыка, спецыфіка ўжывання, паходжанне слова. Слова вывучаецца не ізалявана, а ў сувязі з іншымі словамі. Узаемасувязь слоў дапамагае ім «раскрыцца», праявіць усе свае якасці на семантычным узроўні, ператварыцца з моўнай адзінкі ў мастацкае слова.

Марфемна-словаўтваральныя і лексічныя з'явы перакрыжоўваюцца пры стварэнні лексічнага значэння вытворнага слова, пры выбары марфем у працэсе ўтварэння новых слоў.

Змест курса, яго мэты і задачы абумоўліваюць неабходнасць выкарыстання розных метадаў і прыёмаў навучання: слова настаўніка, лінгвістычнага разважання, гутаркі, слоўнікава-арфаграфічных дыктовак, пошукавых сітуацый, лінгвістычных і слоўнікавых практыкаванняў, творчых заданняў (напісання тэксту па пачатку, тлумачэння сэнсу прыказак, напісання казак, гумарыстычных замалёвак), самастойных работ, працы з вучэбнай і навуковай літаратурай і інш.

Тэмы факультатыўных заняткаў засяроджваюць увагу на фанетыка-арфаэпічных характарыстыках слова, выяўленні семантыкі слова, яго паходжання і асаблівасцей ужывання, падборы да яго сінонімаў, антонімаў, амонімаў, марфемнай будове слова і спосабах яго ўтварэння, стварэнні словазлучэнняў і сказаў са словам. Факультатыўныя заняткі паўтараюць і сістэматызуюць вывучаны на ўроках беларускай мовы матэрыял, засяроджваюць увагу на найбольш складаных пытаннях фанетыкі, арфаэпіі, лексікі, марфемікі і словаўтварэння, сінтаксісу.

Праграма складаецца з тэарэтычнай часткі. Кожны раздзел змяшчае віды работ, якія арыентуюць на прымяненне ведаў у творчай сітуацыі.

Настаўнік можа ўнесці змены ў змест праграмы, пашырыць або скараціць матэрыял у залежнасці ад ступені падрыхтаванасці школьнікаў, іх імкнення да авалодання ведамі, уменнямі і навыкамі.

## Змест курса
*(35 гадзін)*

### Уводзіны
*(2 гадзіны)*

Слова як адзінка мовы і маўлення. Слоўнікавы запас чалавека. Слова не верабей, вылеціць — не зловіш.

*Спосабы дзейнасці:*

*Стварэнне тэкстаў; выпісванне выслоўяў, прыказак і прымавак пра мову, слова; каментарый вытрымак з прац мастакоў слова; вызначэнне лексічнага значэння слоў.*

### Гукавая абалонка слоў
*(7 гадзін)*

Ад гучання да напісання.

Фантастычная краіна галосных і зычных гукаў.

Вымаўляем правільна!

*Спосабы дзейнасці:*

*Чытанне і запіс пад дыктоўку слоў, словазлучэнняў, сказаў і тэкстаў з захаваннем арфаэпічных і арфаграфічных нормаў. Складанне дыялогаў на бытавыя тэмы.*

## Лексічнае значэнне слова

*(15 гадзін)*

Дрэва са шматлікімі галінкамі. Агульнаўжывальныя словы і словы абмежаванага ўжытку. Устарэлыя словы і неалагізмы. Словы «свае» і «чужыя». Механізм мнагазначнасці. Амонімы. Сінонімы. Антонімы.

Роля фразеалагізмаў у маўленні.

*Спосабы дзейнасці:*

*Знаходжанне ў тэкстах слоў з прамым і пераносным значэннем, амонімаў, сінонімаў, антонімаў, дыялектных, прафесійных, устарэлых, новых і запазычаных слоў, тэрмінаў; выяўленне лексічнага значэння слоў, вызначэнне іх сэнсава-стылістычнай ролі ў маўленні, запіс фразеалагізмаў, падбор да іх сінонімаў, антонімаў.*

## Марфемная будова слова і словаўтварэнне

*(5 гадзін)*

Змяненне і ўтварэнне слоў. Марфемная будова слова. Корань слова — агульная частка роднасных слоў. «Знайдзіце сваякоў» — аднакаранёвыя словы і формы аднаго і таго слова.

Утварэнне слоў. Спосабы ўтварэння слоў: прыставачны, суфіксальны, прыставачна-суфіксальны; складанне асноў.

*Спосабы дзейнасці:*

*Чытанне тэкстаў, выяўленне ў іх аднакаранёвых слоў і формаў аднаго і таго слова, вызначэнне сэнсавай ролі марфем. Тлумачэнне спосабу ўтварэння слоў, падбор аднакаранёвых слоў, складанне з імі сказаў і тэкстаў.*

## Слова ў словазлучэнні і сказе

*(6 гадзін)*

Слова ў словазлучэнні. Галоўнае і залежнае словы ў словазлучэнні.

Слова ў сказе. Апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя сказы. Клічныя сказы. Знакі прыпынку ў канцы сказа.

Будова сказа. Галоўныя члены сказа: дзейнік і выказнік. Даданыя члены сказа — дапаўненне, азначэнне, акалічнасць.

Сказы з аднароднымі членамі, знакі прыпынку.

Сказы са звароткамі, інтанаванне, знакі прыпынку.

Простая мова, яе афармленне на пісьме. Дыялог. Афармленне дыялога.

*Спосабы дзейнасці:*

*Выяўленне словазлучэнняў, клічных сказаў. Вызначэнне іх сэнсавай ролі ў тэксце. Пабудова сказаў розных тыпаў, уключэнне ў тэкст.*

*Вызначэнне ў тэкстах галоўных і даданых членаў сказа, выяўленне іх сэнсава-граматычнай ролі. Перабудова неразвітых сказаў у развітыя.*

*Чытанне тэкстаў, вызначэнне сказаў з аднароднымі членамі, абгрунтаванне мэтазгоднасці ўжывання. Складанне такіх сказаў, уключэнне ў выказванне.*

*Знаходжанне складаных сказаў у тэксце, вызначэнне іх ролі, складанне новых сказаў, уключэнне ў вусныя і пісьмовыя выказванні.*

*Падрабязны пераказ тэкстаў з простай мовай (з выкарыстаннем апорных слоў і словазлучэнняў).*

## Прагназуемыя вынікі

У выніку працы на факультатыўных занятках вучні *павінны*:

а) *ведаць*:

- фанетыка-арфаэпічныя характарыстыкі гукаў у слове;
- агульнаўжывальныя словы і словы абмежаванага ўжывання, прафесійныя словы і навуковыя тэрміны, устарэлыя словы і неалагізмы, спрадвечна беларускія і запазычаныя словы, адназначныя і мнагазначныя словы, прамое і пераноснае значэнне слова, сінонімы, антонімы, амонімы, фразеалагізмы як лексічныя з'явы;
- склад слова і спосабы ўтварэння слоў;
- асаблівасці функцыянавання слова ў словазлучэнні і сказе;

б) *умець*:

- правільна вымаўляць словы;
- вызначаць лексічнае значэнне слова па слоўніку і ў тэксце; знаходзіць у тэксце агульнаўжывальныя словы і словы абмежаванага ўжытку; распазнаваць і пісаць запазычаныя словы, устарэлыя словы і неалагізмы, правільна выкарыстоўваць іх у маўленні; падбіраць да слоў сінонімы і антонімы, карыстацца сінонімамі як сродкам сувязі сказаў у тэксце; знаходзіць фразеалагізмы ў тэксце, тлумачыць іх значэнне; карыстацца тлумачальным і перакладным слоўнікамі;
- выяўляць склад слова і спосаб яго ўтварэння, падбіраць аднакаранёвыя словы.

## Літаратура

1. Гамеза, Л. М. Вывучэнне раздзела «Словаўтварэнне» ў функцыянальна-семантычным аспекце / Л. М. Гамеза // Роднае слова. — 2004. — № 6. — С. 65—67.

2. Гамеза, Л. М. Вывучэнне фанетыкі ў школьным курсе беларускай мовы / Л. М. Гамеза // Роднае слова. — 2001. — № 5. — С. 63—66.

3. Гамеза, Л. М. Вывучэнне фразеалогіі беларускай мовы ў школе (V клас) / Л. М. Гамеза // Роднае слова. — 1997. — № 8. — С. 79—83.

4. Гамеза, Л. М. Выкладанне лексікі беларускай мовы ў функцыянальна-камунікатыўным аспекце. Адназначныя і мнагазначныя словы. Прамое і пераноснае значэнне слоў / Л. М. Гамеза // Роднае слова. — 1998. — № 10.— С. 119—125.

5. Гамеза, Л. М. Тэма ўрока: «Антонімы» / Л. М. Гамеза // Роднае слова. — 1999. — № 10. — С. 141—143.

6. Красней, В. П. Стылістычныя рэсурсы лексікі / В. П. Красней // Беларуская мова і літаратура ў школе. — 1990. — № 11—12. — С. 27—28, 37—40.
7. Ляшчынская, В. А. Практыкаванні па лексіцы і стылістыцы : дапам. для настаўніка / В. А. Ляшчынская, А. А. Станкевіч. — Мінск : Народная асвета, 1984. — 160 с.
8. Паўлоўскі, І. І. Родная мова ў пазнанні рэчаіснасці / І. І. Паўлоўскі // Пачатковая школа. — 1998. — № 3. — С. 42—51.
9. Протчанка, В. У. Арфаграфія — важны кампанент у сістэме работы па развіцці мовы / В. У. Протчанка // Беларуская мова і літаратура ў школе. — 1998. — № 4. — С. 14—22.
10. Якуба, С. М. Некаторыя асаблівасці засваення пяцікласнікамі словаўтваральных паняццяў / С. М. Якуба // Роднае слова. — 1998. — № 12. — С. 108—116.

# МЕТАДЫЧНЫЯ РЭКАМЕНДАЦЫІ

## Тэматычнае планаванне

| № урока | Тэма заняткаў | Колькасць гадзін |
|---|---|---|
| | **Уводзіны** *(2 гадзіны)* | |
| 1 | Слова як адзінка мовы і маўлення | *1 гадзіна* |
| 2 | Слоўнікавы запас чалавека. Слова не верабей, вылеціць — не зловіш | *1 гадзіна* |
| | **Гукавая абалонка слоў** *(7 гадзін)* | |
| 3 | Ад гучання да напісання | *1 гадзіна* |
| 4 | Фантастычная краіна галосных і зычных гукаў | *3 гадзіны* |
| 5 | Вымаўляем правільна! | *3 гадзіны* |
| | **Лексічнае значэнне слова** *(15 гадзін)* | |
| 6 | Дрэва са шматлікімі галінкамі | *1 гадзіна* |
| 7 | Агульнаўжывальныя словы і словы абмежаванага ўжытку | *2 гадзіны* |
| 8 | Устарэлыя словы і неалагізмы | *1 гадзіна* |
| 9 | Словы «свае» і «чужыя» | *2 гадзіны* |
| 10 | Механізм мнагазначнасці | *2 гадзіны* |
| 11 | Амонімы | *2 гадзіны* |
| 12 | Сінонімы | *2 гадзіны* |
| 13 | Антонімы | *2 гадзіны* |
| 14 | Роля фразеалагізмаў у маўленні | *1 гадзіна* |
| | **Марфемная будова слова і словаўтварэнне** *(5 гадзін)* | |
| 15 | Змяненне і ўтварэнне слоў | *1 гадзіна* |

| № урока | Тэма заняткаў | Колькасць гадзін |
|---|---|---|
| 16 | Марфемная будова слова. Корань слова — агульная частка роднасных слоў. «Знайдзіце сваякоў» — аднакаранёвыя словы і формы аднаго і таго слова | *2 гадзіны* |
| 17 | Утварэнне слоў. Спосабы ўтварэння слоў: прыставачны, суфіксальны, прыставачна-суфіксальны; складанне асноў | *2 гадзіны* |
| **Слова ў словазлучэнні і сказе** *(6 гадзін)* | | |
| 18 | Слова ў словазлучэнні. Галоўнае і залежнае словы ў словазлучэнні | *1 гадзіна* |
| 19 | Слова ў сказе. Апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя сказы. Клічныя сказы. Знакі прыпынку ў канцы сказа | *1 гадзіна* |
| 20 | Будова сказа. Галоўныя члены сказа: дзейнік і выказнік. Даданыя члены сказа — дапаўненне, азначэнне, акалічнасць | *1 гадзіна* |
| 21 | Сказы з аднароднымі членамі, знакі прыпынку | *1 гадзіна* |
| 22 | Сказы са зваротkамі, інтанаванне, знакі прыпынку | *1 гадзіна* |
| 23 | Простая мова, яе афармленне на пісьме. Дыялог. Афармленне дыялога | *1 гадзіна* |

# Уводзіны

## Слова як адзінка мовы і маўлення. Слоўнікавы запас чалавека. Слова не верабей, вылеціць — не зловіш

Слова вывучаецца ва ўсіх раздзелах курса мовы і выяўляе свае грані: гукавы склад, вымаўленне і напісанне, лексічнае значэнне, марфемны склад і спосабы ўтварэння, спосабы словазмянення, спалучальныя магчымасці.

Словы, якімі чалавек свядома аперыруе ў маўленні, — з'яўляюцца яго слоўнікавым запасам. Багаты слоўнікавы запас — неад'емная частка і ўмова маўленчага развіцця вучня.

Для выкарыстання слова ў маўленні трэба ведаць моўныя асаблівасці слоў, назіраць за адпаведнасцю сувязей паміж словамі і паміж прадметамі, якія гэтымі словамі абазначаны, і ў адпаведнасці з маўленчай сітуацыяй (мэтай выказвання, адрасатам) рабіць правільны выбар.

Паразважаць на гэту тэму прадстаўляецца магчымасць у **практ. 1** пры выпісванні радкоў з верша А. Канапелькі, якія характарызуюць роднае слова (*пералівістае, як каменьчык*; *вясёлкавае, як ручэй*; *цёплае, як агеньчык добрых тваіх вачэй*; *светлае, як маланка*; *гнеўнае, як пярун*; *ціхае, як калыханка*; *вечнае, як Беларусь*), і ў **практ. 2** пры падрыхтоўцы паведамлення на тэму «Слова ў вусным і пісьмовым маўленні».

Асноўнай думкай паведамлення з'яўляюцца словы К. Чорнага: «Чалавек гаворыць слова, яно прагучыць і сціхне... Напісанае слова даносіць свой сэнс праз час, праз ход часу».

Пашырэнню кругагляду вучняў садзейнічае выкананне **практ. 3**, у якім патрабуецца выпісаць з розных фальклорных і літаратурных крыніц выслоўі, прыказкі, прымаўкі пра мову, слова. Напрыклад:

Магутнае слова, ты, роднае слова!
Са мной ты наяве і ў сне;
Душу мне затрэсла пагудкаю новай,
Ты песень наўчыла мяне...

*Янка Купала.*

Слова — радасць, слова — чары,
Вобраз вечна юных вёсен,
Ёсць ты ўсюды, у сонцы, у хмары,
Ты глядзіш праз неба просінь.

*Якуб Колас.*

Багата, родная ты мова,
Цябе стварыў і ўзнёс народ.
А вобразы якія ў словах,
А параўнанняў што за ўзлёт!

*Пятрусь Броўка.*

Для ўзбагачэння слоўнікавага запасу вучняў мэтазгодна прапанаваць **практ. 4** на вызначэнне лексічнага значэння слоў *лексікон* (слоўнікавы запас чалавека), *лексіка* (усе словы мовы), *лексікалогія* (навука, якая вывучае слоўнікавы склад мовы) і пабудову сказаў з гэтымі словамі. Заданне фарміруе ўменні размяжоўваць падобныя па гучанні словы-тэрміны і свядома іх выкарыстоўваць у маўленні.

Да слова неабходна ўважліва адносіцца, выкарыстоўваць трапна і дарэчы! Перш, чым сказаць слова, трэба добра падумаць. Нельга крыўдзіць словам! Менавіта ў гэтым заключаецца сэнс прыказкі: «Слова не верабей, вылеціць — не зловіш». Растлумачыць сэнс гэтай прыказкі патрабуецца ў **практ. 5.**

Тлумачэнне выразу: «Загавары, каб я цябе ўбачыў» у **практ. 7** — лагічны працяг разважання пра ўменне валодаць словам. Тое, як чалавек умее выкарыстаць моўныя сродкі ў маўленні, характарызуе яго асобу.

Умела і дарэчы выкарыстаць слова ў тэксце-апісанні прыроды прапаноўваецца ў **практ. 6.** Вучням неабходна стварыць тэкст па прапанаваным пачатку. Магчымы варыянт працягу тэксту:

*Да чаго прыгожая гэтая вясновая раніца! У паветры яшчэ сыра. На лісцях дрэў вісяць буйныя кроплі начных туманаў.* Але сонейка падымаецца ўсё вышэй і пачынае прыграваць. Буйныя кроплі туманаў паступова памяншаюцца і ўрэшце знікаюць.

Даўно ўжо прыляцелі птушкі. Яны весела спяваюць.

Вясна хутка ўступае ў свае правы!

# Гукавая абалонка слоў

## Ад гучання да напісання

Слова без гукавой формы не існуе. Без знаёмства з фанетычнай сістэмай мовы немагчыма тэарэтычнае і практычнае вывучэнне слова. Таму мэта факультатыўных заняткаў — звярнуць увагу на сэнсаўтваральную ролю гукаў у слове, размежаванне гука і літары.

Сэнсаўтваральная роля гукаў заключаецца ў тым, што ад змены гука мяняецца фанетычнае афармленне слова і яго лексічнае значэнне. Асэнсаваць гэта дапамагаюць **практ. 10**, **11**. Вучні павінны зрабіць выснову аб тым, што асобныя гукі [д], [о], [м] нічога не абазначаюць. Толькі ў прапанаванай паслядоўнасці яны ўтвараюць фанетычна аформленае слова, якое мае лексічнае значэнне.

Адрозніваюцца на слых і па сэнсе словы *дом*, *дам*, *дым*; *нос* і *нас* з-за змены гука, а словы *нос* і *сон* з-за змены паслядоўнасці гукаў.

Значэнне слова *сон* зменіцца пры змене гукаў. У выніку могуць атрымацца словы *сок*, *сом*, *тон*, *фон* і інш.

Пара слоў *род — рот* мае адрозненне толькі на пісьме; словы *луг — люк* адрозніваюцца гукамі [л], [л’]; словы *ёд — яд* адрозніваюцца гукамі [й’о], [йа]; словы *быў — біў* адрозніваюцца гукамі [б], [ы] і [б’], [і]; словы *бак — бок* адрозніваюцца гукамі [а], [о]; словы *сад — сядзь* адрозніваюцца гукамі [с], [т] і [с’], [ц’]; пара слоў *грып — грыб* мае адрозненне толькі на пісьме; словы *рэдка — рэдзька* адрозніваюцца гукамі [т], [ц’]; словы *суды — сюды* адрозніваюцца гукамі [с], [с’]; словы *лыжы — лужы* адрозніваюцца гукамі [ы], [у]; словы *мір — Рым* адрозніваюцца гукамі [м’], [і] і [м], [ы] і паслядоўнасцю гукаў; пара слоў *кот — код* мае адрозненне толькі на пісьме.

Семантыка слова *твар* «пярэдняя частка галавы чалавека», «аблічча, выгляд» зменіцца, калі замяніць галосны гук *а* на гук *о*. Атрымаецца слова *твор* з семантыкай «прадукт творчай працы».

Пры выкананні гэтых заданняў вучні робяць вывад аб тым, што пры дапамозе гукаў ствараюцца словы, па гуках яны пазнаюцца і адрозніваюцца.

Для развіцця культуры маўлення важна, каб вучань умеў адрозніваць гук ад літары. З гэтай мэтай прапануецца **практ. 8**. У ходзе лінгвістычнай гульні «Згубленая літара» вучні літару «знаходзяць», напрыклад,

в..рыва (*ворыва*, *варыва*), гры.. (*грыб*, *грып*), ро.. (*род*, *рот*), ка..ка (*казка*, *каска*).

У лінгвістычнай гульні «З мухі — слана...», прапанаванай у **практ. 13**, вучні займаюцца «чароўным»ператварэннем (ператвараюць ката ў мыш: *кот — кош — кыш — мыш*).

У **практ. 9** пры выпраўленні памылак тыпу «літара "*эс*" зычная, глухая»; «у гэтым слове літара "*о*" вымаўляецца як "*а*"» звяртаецца ўвага на тое, што *гук* — зычны, звонкі, глухі, шыпячы, свісцячы і інш. — *вымаўляецца*, *літара* — абазначае гук на пісьме — *пішацца.*

Успомніць паслядоўнасць літар у алфавіце неабходна пры выкананні **практ. 12.** Калі слова пачынаецца з аднолькавай літары, напрыклад, *дзяўчына, дзевяць*, то пры размеркаванні слоў у алфавітным парадку звяртаецца ўвага на наступную літару слова. Прапанаваныя ў практыкаванні словы вучні павінны размясціць наступным чынам: *даследчык*, *дзевяць*, *дзёран*, *дзьмуць*, *дзялянка*, *дзяўчына*, *дзяцел*, *джын*, *доказ*, *дыялог*, *ездзіць*, *ельнік*, *ёлка*, *журавіны*, *жыта*, *жытні*, *звесткі*, *звонку*, *звычай*, *злёгку*, *злёт*, *ігліца*, *шчодры*, *эвалюцыя*, *экзамен*, *экзотыка*, *этыкет*, *эцюд*, *юбіляр.*

## Фантастычная краіна галосных і зычных гукаў

Фантастычная назва тэмы факультатыўных заняткаў абумоўлівае яе пачатак. Тэму мэтазгодна пачаць з лінгвістычнай казкі. Казка, прапанаваная ў **практ. 14**, дае агульнае ўяўленне аб заканамернасцях фанетычнай сістэмы беларускай мовы, дапамагае пяцікласнікам зразумець ролю галосных і зычных гукаў у маўленні.

Развіццё моўнага слыху — адна з важных задач вывучэння фанетыкі і арфаэпіі. Моўны слых — гэта ўменне заўважаць і вылучаць гукі ў моўнай плыні. Моўны слых вучняў развіваецца пры выкананні **практ. 15**, **16**, а таксама наступных заданняў:

Які гук чуем у прапанаваных словах? Дзе, у пачатку слова ці ў сярэдзіне, чуецца гук [дз]? Адкажыце з дапамогай сігнальных картак.

*Дзяцел*, *дзень*, *адзін*, *дзяўчынка*, *глядзіць*, *дзядуля.*

Падыміце сігнальную картку пры чытанні слоў з гукам [дж]. *Саджанцы*, *сажалка*, *дождж*, *ураджай*, *ружа*, *нараджэнне*, *ружжо.*

Калі слова будзе гучаць па-беларуску, падыміце сігнальную картку.

*Лаўка*, *траўка*, *тоўсты*, *пісаў*, *мыло, дзеці*, *дети*, *Дзіма*, *Дима*, *дзень*, *день.*

У курсе фанетыкі вывучаюцца звонкія і глухія зычныя гукі. У дапаможніку прапаноўваюцца прыёмы размежавання звонкіх і глухіх зычных, на аснове якіх у **практ. 17** вучням неабходна даказаць, што гукі [з], [дз], [м] — звонкія, а гукі [к], [п], [ш] — глухія. Доказы могуць быць наступнымі:

1. Гукі [з], [дз], [м] вымаўляюцца больш гучна, чым гукі [к], [п], [ш]. Значыць, першыя складаюцца з шуму і голасу і з'яўляюцца звонкімі, а другія — толькі з шуму і з'яўляюцца глухімі.

2. Пры вымаўленні звонкіх гукаў [з], [дз], [м] чуецца своеасаблівы звон, г.зн. голас, пры вымаўленні глухіх [к], [п], [ш] гэты звон адсутнічае.

3. Пры вымаўленні звонкіх гукаў [з], [дз], [м] адчуваецца дрыжанне галасавых звязак, а пры вымаўленні глухіх зычных [к], [п], [ш] галасавыя звязкі не дрыжаць.

Адаптаваныя для пятага класа прыёмы размежавання звонкіх і глухіх зычных гукаў выклікаюць інтарэс у вучняў, развіваюць іх назіральнасць, мысленне.

Тлумачэнне прыказкі «*Рана ў поле выязджай — будзе добры ўраджай*», якое трэба даць у **практ. 18**, будзе прыкладна такім:

Калі чалавек дбае аб сваім ураджаі, ён не лянуецца, доўга не спіць. Чалавек рана ўстае і працуе.

У прыказцы трэба знайсці словы, у якіх літар больш, чым гукаў. Такое заданне папярэджвае лінгвістычную гульню «Лічыце, ды не памыліцеся!», прапанаваную ў **практ. 19**. Розная колькасць гукаў і літар звязана ў асноўным з гукамі [дж], [дз], [дз’] і падоўжанымі гукамі.

У **практ. 20** патрабуецца адгадаць загадку, якая датычыцца такой фанетычнай асаблівасці беларускай мовы, як гукі [дж], [дз], [дз’]. Вучні павінны ўсвядоміць, што [дж] або [дз], [дз’] — адзін гук і дзве літары.

У рубрыцы «Стол даведак» вучні знаёмяцца з няпарнымі звонкімі і няпарнымі глухімі зычнымі гукамі. Зычныя [в, в’, л, л’, м, м’, н, н’, р, ў, й’] з’яўляюцца няпарнымі звонкімі, зычныя [к, к’, ф, ф’] з’яўляюцца няпарнымі глухімі. Для замацавання тэарэтычных звестак прапаноўваецца **практ. 21**, у якім неабходна знайсці пару па звонкасці — глухасці: б — п, б’ — п’, д — т, дз’ — ц’, в — няпарны звонкі, в’ — няпарны звонкі і інш.

## Вымаўляем правільна!

Парушэнні арфаэпічных нормаў узнікаюць пры нетрывалым валоданні фанетычнай сістэмай беларускай мовы. Таму мэта гэтых факультатыўных заняткаў — паўтарыць асноўныя арфаэпічныя нормы беларускай мовы.

У сувязі з гэтым пільнай увагі патрабуюць: 1) адметныя для беларускай фанетычнай сістэмы гукі [ў], [дж], [дз], [дз’], [ц’] (на месцы [т’]); 2) гукі [р], [ч], якія ў беларускай мове толькі цвёрдыя і не маюць парнага мяккага; 3) гукі, якія ўтвараюць розныя ў рускай і беларускай мовах пары па цвёрдасці — мяккасці: [д] — [дз’], [т] — [ц’]; адпаведна [д] — [д’], [т] — [т’].

Захаванне арфаэпічных нормаў — важная задача навучання беларускай мове. У **практ. 22** звяртаецца ўвага на мяккае вымаўленне свісцячых перад наступнымі мяккімі зычнымі ў словах *свет*, *снег*; *звесці*, *знесці*.

Фарміраванне навыка размежавання цвёрдых/мяккіх зычных адбываецца шляхам выканання **практ. 23**. Вучні ўсведамляюць, што словы *МАЗ — мазь* пры вымаўленні адрозніваюцца гукамі [з] і [з’], словы *стан — стань* — гукамі [н] і [н’], словы *беларус — Беларусь* — гукамі [с] і [с’] і г. д.

Пераклады тэкстаў на беларускую мову ў **практ. 24, 33** дазваляюць параўнаць вымаўленне і напісанне рускіх і беларускіх слоў. Пераклады тэкстаў могуць быць такімі:

А. Бабуля разбудзіла мяне раніцай. Мы пайшлі ў суніцы. Вёска яшчэ ціха спала. На лузе слаўся туман. Трава ад яго была мокрай.

Вось сонейка пачало павольна падымацца. На роснай траве запальваліся ад сонца агеньчыкі суніц. Я нахіліўся, узяў пальцамі ягадку. Рукі мае запахлі лесам, травою і гэтай зарою (*Паводле В. Астаф'ева*).

Б. У сабакі былі шчаняты ў двары на сене. Сабака пайшоў. Дзеці прыйшлі, дасталі шчаня і аднеслі на печ.

Сабака вярнуўся, не знайшоў шчаняці і завыў. Дзеці знялі шчаня з печы і аддалі сабаку. Сабака аднёс шчаня зноў на месца (*Паводле Л. Талстога*).

Абагульніць веды па арфаэпіі беларускай мовы — задача **практ. 25, 26, 29**, у якіх патрабуецца прачытаць з захаваннем арфаэпічных нормаў урыўкі з тэкстаў і ахарактарызаваць гукі беларускай мовы. Пры чытанні ўрыўка з верша трэба звяртаць увагу на вымаўленне зацвярдзелых гукаў, мяккае вымаўленне гукаў [дз'], [ц'], свісцячых перад наступнымі мяккімі зычнымі.

Пры напісанні апавядання на тэму «Якім павінна быць вуснае маўленне чалавека?» **(практ. 27)** вучням можна прапанаваць план:

1. Неабходна дакладна фармуляваць свае думкі.
2. Трэба вымаўляць словы выразна, каб суразмоўца вас чуў і разумеў.
3. Вуснае маўленне ў афіцыйных і бытавых абставінах.

Заданні рубрыкі «Выпраўляем памылку» фарміруюць культуру маўлення вучняў. Пяцікласнікі любяць выпраўляць памылкі. У працэсе выканання **практ. 28, 30** вучням трэба адрэдагаваць фразы. Напрыклад, фраза *Аб бацьку і аб бабулі яны чулі толькі самае добрае* ў адрэдагаваным варыянце будзе такой: *Пра бацьку і бабулю яны чулі толькі самае добрае.*

Пры перакладзе слоў з рускай мовы на беларускую *темный* (*цёмны*), *день* (*дзень*), *твердый* (*цвёрды*), *медведь* (*мядзведзь*), *подвиг* (*подзвіг*), *затишье* (*заціша*), *ночью* (*ноччу*), *колосье* (*калоссе*), *мазью* (*маззю*), *медью* (*меддзю*), *побережье* (*узбярэжжа*), *раздолье* (*раздолле*) у **практ. 31** неабходна параўнаць вымаўленне гукаў у беларускай і рускай мовах і ў сувязі з гэтым актуалізаваць веды пра дзеканне і цеканне, падаўжэнне ў беларускай мове.

Асаблівасці вымаўлення гукаў [г], [дз'], [ц'], [с'], [л'] варта адзначыць пры чытанні лічылкі **(практ. 32)**.

Як цудоўна гэта, дзеці,
Што ёсць літары на свеце —
Зычныя, галосныя!
Да адной адну дадаць —
Можна словы з іх складаць,
Смешныя, сур'ёзныя!

Слова ты —
Слова я.
Пачынаецца гульня.

Лічылку мэтазгодна вывучыць на памяць. У гэтым выпадку пры выкананні задання лінгвістычнага характару вучні развіваюць памяць, мысленне, актывізуюць увагу.

# Лексічнае значэнне слова

## Дрэва са шматлікімі галінкамі

Мэта дадзеных факультатыўных заняткаў — усвядоміць слоўнікавы склад мовы як сістэму. Для гэтага прапаноўваецца параўнаць «жыццё шматлікіх слоў мовы з жыццём дрэва са шматлікімі галінкамі, адны з якіх схіляюцца адна да адной, другія — разыходзяцца ў процілеглым напрамку».

Карані дрэва — гэта жывая народная мова. З дыялектных слоў вучоныя, пісьменнікі адбіраюць назвы, якія найбольш дакладна, выразна абазначаюць прадмет, з’яву рэчаіснасці. Такія словы называюцца літаратурнымі.

Пасля лінгвістычных разважанняў у **практ. 34** вучням прапануецца вызначыць з дапамогай тлумачальнага слоўніка лексічнае значэнне слоў *абаранак*, *барвовы*, *дзівосны*, *задума*, *згода*, *здань*, *знічка*, *пінчук*, *хлусня*, *шэры*, *шчаслівы*, *шызы*. Вучні павінны ўсвядоміць, што такое лексічнае значэнне слова і як з дапамогай тлумачальнага слоўніка яго можна вызначыць.

Звесткі пра стылістычна нейтральныя і стылістычна афарбаваныя словы, з якімі вучні сустракаюцца ў тэкстах розных тыпаў і стыляў, замацоўваюцца на матэрыяле **практ. 35**, **36** пры вызначэнні стылістычнай прыналежнасці слоў: *хадзіць* (*стылістычна нейтральнае*), *валачыцца* (*стылістычна афарбаванае*), *брахня* (*стылістычна афарбаванае*), *малекула* (*стылістычна афарбаванае*); пры вызначэнні стылю прапанаваных тэкстаў.

## Агульнаўжывальныя словы і словы абмежаванага ўжытку

Задачы наступных некалькіх факультатыўных заняткаў — замацаваць паняцці «агульнаўжывальныя словы», «словы абмежаванага ўжытку», «дыялектныя словы», «прафесійныя словы»; садзейнічаць выпрацоўцы ўменняў правільнага выкарыстання дыялектных і прафесійных слоў у тэкстах.

Замацаваць паняцце «агульнаўжывальныя словы» можна з дапамогай **практ. 37**, у якім патрабуецца падабраць словы на тэму «Адзенне». У **практ. 38** на аснове атрыманай тэматычнай групы слоў вучням трэба стварыць замалёўку «У краме».

Прапанаваны ўзор замалёўкі дазволіць вучням хутчэй справіцца з заданнем:

*Недарагія рэчы бацькі дазваляюць мне купляць самому. Я зайшоў у краму і запытаўся ў прадаўца: «Скажыце, калі ласка, куды мне звярнуцца? Я хачу купіць кашулю». Мне ветліва адказалі. Я зрабіў пакупку, падзякаваў прадаўцу, які дапамог мне выбраць патрэбны памер, колер. Кашуля спадабалася бацькам.*

У супастаўленні з агульнаўжывальнымі словамі мэтазгодна актуалізаваць звесткі пра дыялектную і прафесійную лексіку. На факультатыўных занятках такая работа можа праводзіцца з дапамогай заданняў на вылучэнне дыялектных і прафесійных слоў у тэкстах з літаратурных твораў, энцыклапедый (**практ. 39, 40, 41**). Вучні чытаюць тэкст **практ. 40**, да дыялектных слоў *шчэ*, *картопля* прыводзяць агульнаўжывальныя адпаведнікі *яшчэ*, *бульба*. Пры выкананні **практ. 41** вучні вылучаюць прафесійныя словы і тлумачаць іх лексічныя значэнні: *сакаленне*, *гаптаванне*, *расшыванне*, *строчка*, *насціл*, *слань* (віды вышыўкі); *цыравальны шоў* (шоў, які пераплятае ніткі тым або іншым спосабам); *невад* (рыбалоўная снасць); *куль* (сеткавы мяшок); *цеціва* (вяроўка); *хамут* (частка вупражы); *хамутовая*, *шлейная*, *ярэмная вупраж* (віды вупражы).

У **практ. 42** прапануецца напісаць сачыненне з ужываннем прафесійнай лексікі на тэму «Прафесія, якую я выбіраю». Прапанаваная для творчай работы тэма цікавая, але даволі складаная для пяцікласнікаў. Вучням мэтазгодна прадставіць план сачынення. Да кожнага пункта плана можна падабраць апорныя словы і словазлучэнні.

Прыкладны план сачынення:

1. Чаму я выбіраю гэту прафесію? (*Прыносіць карысць Радзіме*, *падабацца*, *цікавіць*, *дасягаць*, *даказаць усім* і інш.)
2. Кім працуюць мае бацькі? (*Настаўнік*, *прадпрымальнік*, *чыноўнік*, *выкладчык* і інш.)
3. Як атрымаць любімую прафесію? (*Добра вучыцца*, *паступіць ва ўніверсітэт*, *набірацца вопыту* і інш.)

У ходзе слоўнікавай работы трэба ўспомніць назвы прафесій, напрыклад, *аграном*, *настаўнік*, *урач*, *вадзіцель*, *інжынер*, *будаўнік*, *прадавец* і інш.

## Устарэлыя словы і неалагізмы

Мэта гэтых факультатыўных заняткаў — замацаваць паняцці «ўстарэлыя словы», «неалагізмы», усвядоміць прычыны «старэння» і ўзнікнення слоў.

Дасягненню пастаўленай мэты спрыяе выкананне **практ. 43**, у якім трэба выпісаць са сказаў устарэлыя словы (*конка*, *рабфак*, *сямігодка*, *вакацыі*, *прасніца*) і вызначыць прычыну іх «старэння»: знікаюць пэўныя прадметы, з'явы; словы мяняюць назвы.

Шмат устарэлых слоў сустракаецца ў вуснай народнай творчасці. Таму ў **практ. 44** вучням прапануецца прыдумаць казку, у якой могуць быць ужыты ўстарэлыя словы тыпу *лучына*, *газоўка*, *лучнік*, *аканом*, *брычка*, *дзесяціна*, *лапці*, *залатоўка*, *фальварак* і інш. Заданне спрыяе ўзбагачэнню слоўнікавага запасу вучняў, развіццю іх творчых здольнасцей.

Неалагізмы з'яўляюцца ў мове ў сувязі з развіццём грамадства, навукі, тэхнікі, вытворчасці. Вялікая колькасць новых слоў узнікла ў сувязі з развіццём мультымедыйных сродкаў інфармацыі. Таму творчае заданне (**практ. 46**), у якім патрабуецца напісаць сачыненне на тэму «Што я ведаю пра інтэрнэт?» — актуальнае і цікавае для вучняў.

## Словы «свае» і «чужыя»

Мэта факультатыўных заняткаў на тэму «Словы "свае" і "чужыя"» — замацаваць паняцці «спрадвечна беларускія словы», «запазычаныя словы»; пераканаць вучняў у тым, што запазычанне слоў — неабходны працэс моўнага развіцця.

Лінгвістычныя разважанні па тэме «Спрадвечна беларускія і запазычаныя словы», прапанаваныя ў **практ. 47**, працягваюцца ў ходзе выканання **практ. 48** на вызначэнне лексічнага значэння слоў нямецкага паходжання; **практ. 49**, **51** на ўстаўку прапушчаных слоў *фанетыка*, *суфікс*, *лексіка*, *рэстаўрыраваць*, *аднаўляць* у сказы; а таксама ў **практ. 50** на ўстаўку прапушчаных літар у запазычаныя словы *камп'ютар*, *архітэктура*, *шэдэўр*, *ліцэнзія*, *рэстаўрацыя*, *тэмпература*, *вундэркінд*.

Пры вывучэнні запазычаных слоў мэтазгодна правесці слоўнікава-арфаграфічную дыктоўку. Пры напісанні запазычаных слоў вучні актуалізуюць веды па арфаграфіі, выпрацоўваюць арфаграфічную пільнасць. Словы для дыктоўкі могуць быць такімі: *манумент*, *відэлец*, *абажур*, *анекдот*, *сальта*, *даміно*, *геалогія*, *тратуар*, *прэзідыум*, *кювет*, *цэнтрыфуга*, *пакгаўз*, *феерверк*, *шлагбаум*.

Прапанаваныя ў **практ. 52** словы *ганак*, *гарнец*, *гвалт*, *гірса*, *гонты*, *гуз*, *гузік*, *зацугляць*, *нягеглы*, *розгі*, у якіх гук [г] гучыць не так, як у спрадвечна беларускіх словах, вучням мэтазгодна завучыць на памяць. Дадаткова вучні павінны вызначыць лексічнае значэнне слоў *гарнец*, *гірса*, *гонта*, *нягеглы*. *Гарнец* — «мера сыпкіх і вадкіх цел, роўная 3, 28 літра, якой карысталіся да ўвядзення метрычнай сістэмы мер; пасудзіна такой ёмістасці» (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы : у 5 т. / пад рэд. К. К. Атраховіча. Мінск : БелСЭ, 1978. — Т. 2. 33), *гірса* — «пустазелле сямейства злакавых» (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы : у 5 т. / пад рэд. К. К. Атраховіча. Мінск : БелСЭ, 1978. — Т. 2. 53), *гонта* — «дахавы матэрыял у форме невялікіх дошчачак, востра саструганых з аднаго боку і пазам — з другога» (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / пад рэд. К. К. Атраховіча. Мінск : БелСЭ, 1978. — Т. 2. 69), *нягеглы* — «кволы, слабы, няўдалы» (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / пад рэд. К. К. Атраховіча. Мінск : БелСЭ, 1980. — Т. 4. 425).

Самастойная работа на выпісванне са школьнага падручніка па якой-небудзь дысцыпліне невялікага тэксту з запазычанымі словамі **(практ. 53)** садзейнічае ажыццяўленню міжпрадметных сувязей, развівае комплексны падыход да вывучаемай моўнай з'явы.

## Механізм мнагазначнасці

Мэта гэтых факультатыўных заняткаў — раскрыць прычыны ўзнікнення мнагазначнасці слоў. Матэрыял пад рубрыкай «Запомнім» знаёміць вучняў з механізмам мнагазначнасці. Мнагазначнасць узнікае ў выніку набыцця словам пераноснага значэння. Слова з'яўляецца мнагазначным, калі яно мае, акрамя прамога значэння, пераносныя. Напрыклад, *спіць* чалавек (прамое значэнне), *спіць* лес (пераноснае значэнне).

Для выпрацоўкі ўмення выяўляць словы з пераносным значэннем прапануецца **практ. 54**. Ва ўрыўку з верша Якуба Коласа «Усход сонца» вучні павінны вылучыць наступныя словы з пераносным значэннем: *грае* (неба), *пераліўны* (блеск), *сыпле золатам* (неба). У **практ. 55**, **56** вучні састаўляюць словазлучэнні, у якіх прыведзеныя словы ўжываюцца ў прамым і пераносным значэннях: *моцнае збудаванне*, *моцнае сэрца*; *залаты гадзіннік*, *залаты час*; *цёплая печ*, *цёплыя адносіны*; *высокае дрэва*, *высокія пачуцці*; *свежае мяса*, *свежая навіна*; *морская хваля*, *хваля пачуццяў*; *салодкі яблык*, *салодкае пачуццё*; *салёны агурок*, *салёны анекдот*; *халодны вецер*, *халодныя адносіны*; *калючы дрот*, *калючы позірк*; *кіслая капуста*, *кіслая міна*.

Да напісання сачынення на тэму «Восеньская раніца» вучні рыхтуюцца шляхам выканання заданняў на тлумачэнне сэнсу выразаў *луска хваль*; *бярэзнік, як манетны двор* з верша С. Грахоўскага «Асенні дзень» **(практ. 57)**; на падбор 10—15 слоў тэматычнай групы «восень», якія б спатрэбіліся для выказвання **(практ. 58)**.

**Практ. 59**, у якім патрабуецца вызначыць лексічнае значэнне слова «хлеб» у сказах, наглядна і пераканаўча дэманструе з'яву мнагазначнасці. Слова «хлеб» у сказах ужываецца ў значэннях «прадукт харчавання», «зерне», «заробак».

Пад рубрыкай «Спроба пяра» даецца заданне стварыць і запісаць замалёўку пад назвай «Смяецца поле» **(практ. 60)**. Штуршком да напісання будзе чатырохрадкоўе М. Багдановіча, у якім дзеясловы *смяецца*, *зіяе*, *мкнуцца*, *расцвіла* ўжыты ў пераносным значэнні:

А за сцяной смяецца поле.
Зіяе неба з-за акна, —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна.

*М. Багдановіч.*

Пры выкананні **практ. 61** на выпраўленне маўленчых недахопаў пяцікласнікі адчуваюць сябе настаўнікамі або рэдактарамі газет, часопісаў. У прапанаваных сказах няправільна ўжыты словы *пуховы* (трэба *пушысты*), *душэўным* (трэба *духмяным*). Выпраўленне маўленчых памылак фарміруе культуру маўлення вучня, развівае яго мысленне.

## Амонімы

Пры вывучэнні тэмы «Амонімы» на факультатыўных занятках варта ўспомніць, што такое словы-амонімы, а таксама звярнуць увагу на размежаванне аманіміі і мнагазначнасці.

Пры выкананні **практ. 62** вучні спрабуюць свае сілы! Яны ствараюць гумарыстычную замалёўку на аснове мнагазначных слоў або слоў-амонімаў. Заданне няпростае. Для паспяховага выканання, па-першае, трэба адабраць словы-амонімы, мнагазначныя словы і, па-другое, прыдумаць сюжэт. Каб было лягчэй, вучням прапануецца прыклад гумарыстычнай замалёўкі.

Выкананне **практ. 63, 64**, у якіх патрабуецца выявіць у тэксце словы-амонімы, растлумачыць іх значэнне з дапамогай слоўніка, засвоіць спосабы фіксацыі амонімаў у тлумачальных слоўніках, спрыяе замацаванню ведаў па тэме, фарміраванню практычных уменняў і навыкаў.

У заданні на доказ таго, што словы *світа*, *міна*, *ліра* з’яўляюцца амонімамі, вучням трэба добра арыентавацца ў тэарэтычным матэрыяле па тэме **(практ. 65)**. *Світа* 1. «асобы, якія суправаджаюць важную, высокапастаўленую асобу», 2. «доўгая сялянская верхняя вопратка з сукна»; *міна* 1. «снарад з выбуховым рэчывам», 2. «выраз твару»; *ліра* 1. «старажытнагрэчаскі струнны музычны інструмент», 2. «грашовая адзінка». Вучні павінны зрабіць вывад аб тым, што словы *світа*, *міна*, *ліра* маюць аднолькавае гучанне і напісанне, але абазначаюць зусім розныя паняцці і з’явы, таму гэта — амонімы.

На матэрыяле **практ. 66** праводзіцца работа па падагульненні ведаў па тэме «Амонімы». Вучням трэба назваць словы-амонімы па лексічным значэнні:

1) «хімічны элемент», «стары густы сасновы лес» — *бор*;

2) «ільдзіна», «рыбалоўная снасць» — *крыга*;

3) «адшліфаванае шкло, здольнае даваць адбіткі прадметаў», «падвесны асвятляльны прыбор» — *люстра*;

4) «умоўны знак, якім абазначаюць музычны гук», «афіцыйны дыпламатычны зварот» — *нота*.

Практыкаванне мэтазгодна выканаць вусна і калектыўна, паколькі з-за спецыфікі задання ў вучняў могуць узнікнуць цяжкасці пры называнні слоў-амонімаў па іх лексічным значэнні. У гэтым выпадку вучні не змогуць выкарыстаць тлумачальны слоўнік.

## Сінонімы

Перад выкананнем практыкаванняў на факультатыўных занятках мэтазгодна ўспомніць, што ў мове існуюць словы-сінонімы, якія гучаць і пішуцца па-рознаму, але абазначаюць адно і тое ж паняцце. Так, кавалак, глыба лёду абазначаецца словамі «льдзіна» або «крыга».

Сінонімы выкарыстоўваюцца з мэтай дакладнага і выразнага апісання фактаў або падзей, стварэння мастацкай вобразнасці і інш. Часта сінонімы выкарыстоўваюцца, каб пазбегнуць паўтораў, а таксама для сувязі сказаў у тэксце.

Ролю слоў-сінонімаў у сказах і тэкстах вучні засвойваюць пры выкананні **практ. 67**, у якім патрабуецца скласці сказы са словамі *невядомы*, *неразгаданы*, *безыменны*, *ананімны* і растлумачыць адценні іх лексічнага значэння. У **практ. 68** трэба зайсці словы-сінонімы ў тэксце. Тэкст практыкавання адаптаваны для вучняў пятага класа. У тэксце шмат сінонімаў да слова *ісці* (*кіраваць*, *рэзаць*, *крочыць*, *ступаць*, *дыбаць*, *падацца*).

У рубрыцы «Выпраўляем памылку» **(практ. 69)** прапануюцца заданні на выяўленне лішніх слоў сярод сінонімаў. Напрыклад, сярод слоў *радасць*, *шчасце*, *пачуццё* слова *пачуццё* ў гэтым сінанімічным радзе лішняе. Сярод слоў-сінонімаў *мовавед*, *лінгвіст*, *чалавек* лішняе слова *чалавек*. Сярод слоў-сінонімаў *дарога*, *гасцінец*, *шлях*, *сцежка*, *скрыжаванне* лішняе слова *скрыжаванне*.

У другой частцы практыкавання патрабуецца адрэдагаваць сказы, выкарыстоўваючы словы-сінонімы. У першым сказе замест слова *пажылы* мэтазгодна выкарыстаць слова *стары*. У другім сказе слова *стварыў* можна замяніць словам *напісаў*.

Выкананне заданняў на выяўленне лішняга слова ў сінанімічных радах, рэдагаванне сказаў патрабуюць ведання сінаніміі як моўнай з'явы, развіваюць культуру маўлення вучняў.

Пры выкананні **практ. 70** вучні павінны размясціць словы-сінонімы па меры павелічэння або памяншэння прыметы, якасці. Для таго каб правільна размясціць словы-сінонімы па меры павелічэння або памяншэння прыметы, якасці, неабходна ведаць адценні лексічнага значэння слоў. Прапанаваныя ў практыкаванні словы-сінонімы могуць быць размешчаны наступным чынам: *здзівіць*, *уразіць*, *азадачыць*, *ашаламіць*; *ісці*, *сунуцца*, *брысці*, *крочыць*, *шыбаваць*; *лес*, *гай*, *сасняк*, *пушча*, *гушчар*, *тайга*.

Пры напісанні лінгвістычнага апавядання «Сінонімы ў беларускай мове» **(практ. 71)** вучні выяўляюць веды па тэме, вучацца звязна і паслядоўна выказвацца, дарэчы выкарыстоўваць словы; развіваюць памяць, маўленне, мысленне; фарміруюць арфаграфічную і пунктуацыйную пільнасць. Для таго каб лінгвістычнае апавяданне мела аднолькавую структуру і паслядоўнасць, мэтазгодна прапанаваць вучням яго план:

а) сінонімы — словы, розныя па гучанні і напісанні;

б) сінонімы абазначаюць адно і тое ж паняцце;

в) выкарыстанне сінонімаў у маўленні.

Адчуць сябе мастаком слова, пісьменнікам — найвялікшая асалода. У **практ. 72** вучням трэба параўнаць дзве рэдакцыі ўрыўкаў трылогіі Я. Коласа «На ростанях» і выявіць найбольш удалую. Паколькі заданне прапануецца пад рубрыкай «Давайце паразважаем», вучні павінны абгрунтаваць сваю думку. Неабходна звярнуць увагу на тое, якімі сінонімамі заменены ў тэксце рэдакцыі 1954 года вылучаныя ў тэксце рэдакцыі 1928 года словы.

## Антонімы

Мэта заняткаў па тэме «Антонімы» — успомніць, што такое словы-антонімы, для чаго іх выкарыстоўваюць у маўленні.

Паколькі ў вуснай народнай творчасці часта сустракаюцца словы-антонімы (*ні блізка, ні далёка*; *ні нізка, ні высока*; *на гора ці на радасць* і інш.), то факультатыўныя заняткі па тэме мэтазгодна пачаць з казкі. У казцы пра сем Агафонаў **(практ. 73)** вучні знаходзяць словы з супрацьлеглым значэннем: *управа — улева*, *ні туды — ні сюды*. Робіцца вывад аб тым, што словы-антонімы розныя па гучанні і абазначаюць супрацьлеглыя паняцці. Карысным будзе заданне на пераказ казкі з абавязковым ужываннем антонімаў. Словы-антонімы робяць маўленне выразным і яскравым, дазваляюць вобразна і дынамічна перадаваць думку.

Матэрыял **практ. 75** пераконвае вучняў у тым, што ў вуснай народнай творчасці шмат антонімаў. У практыкаванні прапануецца народная песня «Ах ты, сонца-сонейка...». Словы-антонімы *раненька — позненька*, *узысці — зайсці* (*пра сонца*) надаюць песні каларыт і дынаміку.

Для замацавання ведаў па тэме прапануецца **практ. 74**, у якім трэба скласці са словамі-антонімамі словазлучэнні, растлумачыць іх значэнні. Напрыклад, *вялікі* (характарыстыка памеру, аб'ёму) кошык — *малы* (характарыстыка памеру, аб'ёму) кошык; *вялікі* (вядомы, знакаміты) чалавек — *нікчэмны* (невядомы, нецікавы) чалавек і інш. Пры выкананні **практ. 76** вучні складаюць антанімічныя пары: *скупы — шчодры*, *лянівы — працавіты*, *маўклівы — гаварлівы*, *вясёлы — сумны*. Такая работа спрыяе ўзбагачэнню слоўнікавага запасу вучняў, развіццю мыслення, логікі.

Пад рубрыкай «Выпраўляем памылку» **(практ. 77)** вучні вызначаюць лішняе слова ў кожным радзе. Аналагічная работа праводзілася пры вывучэнні сінонімаў, таму цяжкасцей пры выкананні задання не будзе. Вучням можа спатрэбіцца тлумачальны слоўнік, каб удакладніць лексічнае значэнне некаторых слоў (*актыўнасць*, *пасіўнасць*, *змучаны* і інш.).

Напісанне сачынення-разважання на тэму «Станоўчыя і адмоўныя рысы характару чалавека» **(практ. 79)** — лагічнае завяршэнне практычнай работы. Спачатку трэба пагаварыць аб тым, што ў характары кожнага чалавека ёсць як станоўчыя якасці, так і адмоўныя, таму кожны чалавек павінен выхоўваць сябе, імкнуцца пазбавіцца заганных якасцей.

Падрыхтоўчая работа да сачынення ўключае слоўнікавыя заданні: складаюцца антанімічныя пары (**практ. 78**), словазлучэнні і сказы са словамі-антонімамі: *добры — злы*, *зацікаўлены — абыякавы*, *скупы — шчодры*, *зайздрослівы — добразычлівы*, *жорсткі — міласэрны*, *лянівы — працавіты*, *вясёлы — пануры* і інш.; называюцца некаторыя станоўчыя і адмоўныя рысы характару чалавека, напрыклад, *шчырасць*, *адказнасць*, *дабрыня*, *ласкавасць*, *ветлівасць*, *выхаванасць*, *надзейнасць*, *шчодрасць*; *недобразычлівасць*, *ненадзейнасць*, *сквапнасць*, *зайздрасць*.

Для пяцікласнікаў такая лексіка будзе значнай дапамогай пры напісанні творчай работы. Слоўнікавая работа праводзіцца напярэдадні напісання сачынення.

## Роля фразеалагізмаў у маўленні

Мэта факультатыўных заняткаў — узнавіць веды па фразеалогіі, выявіць ролю фразеалагізмаў у маўленні.

На пачатку факультатыўных заняткаў неабходна ўспомніць аб тым, што ўстойлівыя непадзельныя спалучэнні слоў, якія існуюць у мове як адно сэнсавае цэлае, называюцца фразеалагізмамі. Мноства фразеалагізмаў свабодна звязваюцца ў сказе з іншымі словамі, напрыклад: Сядзелі абодва *плячо ў плячо* і як чужыя (*З. Бядуля*). Яны, простыя дзеці вёскі, зразумелі з усяго гэтага *пятае праз дзясятае* (*З. Бядуля*).

Заданні на падбор слоў-сінонімаў у **практ. 80** (малоць глупства — *балбатаць*, пускаць туман у вочы — *падманваць*, няблізкі свет — *далёка*, як карова языком злізала — *хутка знікнуць*), фразеалагізмаў-сінонімаў або фразеалагізмаў-антонімаў да ўласна фразеалагізмаў (хоць вока выкалі — *хоць іголкі збірай*, хоць да раны прылажы — *да трох не гавары*); выяўленне фразеалагізмаў са станоўчым эмацыянальным значэннем у **практ. 81** (*лёгкая рука*, *гарэць у руках*, *запасці ў душу*, *верай-праўдаю*) з'яўляюцца асновай практычнай дзейнасці пры вывучэнні тэмы. Вучні пераконваюцца ў тым, што ўласна фразеалагізмы з'яўляюцца адным сэнсавым цэлым, да ўласна фразеалагізмаў можна падабраць сінанімічныя або антанімічныя словы або фразеалагізмы.

Фразеалагізмы, прыказкі, прымаўкі, крылатыя словы ўваходзяць у паняцце фразеалогія ў шырокім сэнсе слова. З прыказкамі, прымаўкамі, крылатымі словамі вучні знаёмяцца ў курсе беларускай літаратуры. Фразеалагізмы і прыказкі, прымаўкі на факультатыўных занятках мэтазгодна параўнаць, выявіць агульнае і адметнае. Таму ў рубрыцы «Лінгвістычны каментарый» вучні даведваюцца аб тым, што прыказкі — устойлівыя спалучэнні, якія не ўступаюць у сказе ў сувязь з іншымі словамі, па форме з'яўляюцца закончанай сінтаксічнай адзінкай — сказам. Напрыклад: *Хто дбае, той і мае.*

Блізкія да прыказак — прымаўкі: *Грыбоў было ў лесе — хоць касою касі*. Прымаўкі, як і прыказкі, падобныя па форме да сказаў, але вылучаюцца незавершанасцю. Для ўсведамлення розніцы паміж прыказкамі

і прымаўкамі вучням прапануецца наступны дыдактычны матэрыял: *Пасадзі свінню за стол, а яна і ногі на стол. Чужое дабро бярэ за рабро* (Прыказкі). *Хоць сядзі і плач. Пасля дожджыку ў чацвер* (Прымаўкі).

Падрыхтоўку да напісання сачынення на тэму «Стрымаць слова» **(практ. 82)** мэтазгодна пачаць з пытанняў:

— Ці заўсёды трэба трымаць слова?

— Як адносяцца да тых, хто слова не трымае?

— Ці былі ў вас выпадкі, калі вы паабяцалі, а потым забыліся?

Размовы на маральна-этычныя тэмы выхоўваюць вучняў, дазваляюць паказаць сябе, свой характар. Стварэнне маўленчых сітуацый на ўроку садзейнічае выпрацоўцы ўменняў трапнага выкарыстання слова адпаведна мэце і адрасату маўлення. Састаўленая вучнямі ў працэсе слоўнікавай работы тэматычная група слоў і словазлучэнняў, напрыклад, *адказны*, *надзейны таварыш*, *даць слова*, *паабяцаць нікому не расказваць*, *хлусня*, *падман*, *спадзявацца на сябра*, *цвёрды характар*, *жыццёвыя сітуацыі*, *адмоўны прыклад*, *узаемная сімпатыя* і інш. дапаможа ў такой рабоце.

# Марфемная будова слова і словаўтварэнне

## Змяненне і ўтварэнне слоў

Факультатыўныя заняткі на тэму «Змяненне і ўтварэнне слоў» пачынаюцца размежаваннем паняццяў «утварэнне слоў» і «змяненне слоў» з дапамогай табліцы **(практ. 83)**.

| Аднакаранёвыя словы | Формы аднаго і таго ж слова |
|---|---|
| Лексічнае значэнне слоў рознае | Значэнне слоў не змяняецца |
| Адрозніваюцца суфіксамі, прыстаўкамі, якія надаюць словам іншае лексічнае значэнне | Адрозніваюцца канчаткамі |
| Належаць да адной ці розных часцін мовы | Адна часціна мовы |

Асэнсаванне звестак, змешчаных у табліцы, адбываецца ў ходзе характарыстыкі слоў, прапанаваных у **практ. 84**, **85**. Вучні павінны выявіць словаформы і аднакаранёвыя словы. Выкарыстоўваючы табліцу, нескладана зрабіць вывад аб тым, што словы *агонь — агністы*, *лес — ляснік*, *валасы — безвалосы*, *шчасце — шчаслівы*, *школа — школьны*, *каса — касіць* — аднакаранёвыя, а *зямля — зямлі*, *спяваю — спяваеш*, *каса — касою* — словаформы.

У тэксце, змешчаным пад рубрыкай «Правяраю сябе» **(практ. 86)**, прадстаўлены розныя граматычныя формы адных і тых жа слоў і аднакаранёвыя словы. Напрыклад, у *зімовым* (лесе), *зімовага* (сонца) — граматычныя формы слова; *заснежаныя* (яліны), *снегавая* (шапка) — адна-

каранёвыя словы. У прапанаваным тэксце мастацкага стылю няпроста знайсці азначаныя моўныя з'явы, паколькі яны сустракаюцца нячаста. Да таго ж вучням трэба растлумачыць лексічнае значэнне слоў *скупы*, *смуга*, *пухкі*, *зіхоткі*, *гурбы*.

Стварыць тэкст па прапанаваным пачатку з выкарыстаннем розных граматычных формаў адных і тых жа слоў, а таксама аднакаранёвых слоў патрабуецца ў **практ. 87**. Група аднакаранёвых слоў *восень*, *восеньскі*; *крышталь*, *крыштальны*; *сонца*, *сонечны*; *холад*, *халодны*; *верасень*, *вераснёвы*; *птушка*, *птушыны*, *птушаня* і іншыя дапаможа пяцікласнікам выканаць творчае заданне. Працяг тэксту можа быць такім:

***Першыя крокі восені***

*Дзень быў ясны, а паветра крыштальнае і чыстае. Такім яно бывае толькі ў асобныя дні верасня. Восень робіць першыя крокі, пасылаючы на зямлю лёгкі, бадзёры халадок.* Яшчэ нядаўна лісце дрэў было зялёным, а сёння яно рознакаляровае: чырвонае, жоўтае, чырвона-жоўтае. Вераснёвае сонца з раніцы халоднае. Сонечныя промні прагравають зямлю толькі ў поўдзень. Усё часцей і часцей ідзе дождж. З раніцы ўжо замярзаюць лужы. Яны напамінаюць крышталь або шкло.

## Марфемная будова слова. Корань слова — агульная частка роднасных слоў. «Знайдзіце сваякоў» — аднакаранёвыя словы і формы аднаго і таго слова

Пры засваенні марфемнай будовы слова на факультатыўных занятках важна, каб вучні зразумелі, што кожнае слова складаецца з марфем. Марфемы — гэта значымыя часткі слова: аснова, канчатак, корань, прыстаўка, суфікс. Кожная марфема мае абстрактнае значэнне. Напрыклад, слова *грузчык* пры канкрэтным лексічным значэнні абазначае асобу, «рабочага, які займаецца пагрузкай або разгрузкай чаго-небудзь», корань *груз-* мае абстрактнае значэнне — важкасць, а *-чык* — суфікс дзеючай асобы. Суфікс можа далучацца і да другіх каранёў: *ракетчык*, *кулямётчык* і інш. У слове *грузчыкаў* канчатак указвае, што гэта назоўнік мужчынскага роду ў форме роднага склону множнага ліку.

Практычная работа пачынаецца з характарыстыкі значэння суфіксаў у выдзеленых словах народнай песні *сонейка*, *раненька*, *позненька* **(практ. 88)**, а таксама з вымаўлення і напісання гэтых слоў. Робіцца вывад аб тым, што суфіксы *-ейк-*, *-еньк-* надаюць слову памяншальна-ласкальнае значэнне.

Задумацца над семантыкай, марфемнай будовай і спосабамі ўтварэння аднакаранёвых слоў «патрабуе» гульня «Знайдзіце сваякоў», прапанаваная ў **практ. 89**. Вучням спачатку трэба выпісаць словы з коранем, які мае значэнне «нос», а потым — словы, корань якіх мае значэнне «насіць». Вынік падводзіць журы. Вучні павінны зрабіць наступны выбар. Словы з коранем, які мае значэнне «нос»: *даўганосік*, *насавы*, *на-*

*саглотачны*, *насаты*, *насаглотка*, *насоўка*, *насы*, *носік*, *пераносіца*. Словы, корань якіх мае значэнне «насіць»: *адносіць*, *данос*, *занос*, *нанос*, *насілкі*, *ношка*, *паднос*, *перанос*, *разносчык*, *узнос*.

Асэнсаванне марфемнай ролі прыставак адбываецца шляхам выканання **практ. 91**, у якім патрабуецца скласці сказы са словамі з аднолькавымі прыстаўкамі *запісаць*, *занесці*, *забраць*. У **практ. 92** вучням трэба параўнаць аднакаранёвыя словы *лясок*, *лясны*, *ляснік*, *ляснічы*, *лясніцтва* па сэнсе і марфемнай будове. У **практ. 90** у тэксце-загадцы неабходна вызначыць марфему, якая надае слову супрацьлеглае значэнне (напрыклад, *зацвіце* — *адцвіце*). Адгадкай будзе слова *грэчка*.

У ходзе практычнай работы пры вывучэнні марфемнай будовы і спосабаў утварэння слоў мэтазгодна шырока выкарыстоўваць графічныя сродкі нагляднасці, напрыклад:

| | | |
|---|---|---|
| | ок | невялікі лес |
| (я) | ны | ... |
| лес | нік | ... |
| | нічы | ... |
| | ніцтва | ... |

У заданні патрабуецца падабраць аднакаранёвыя словы па схеме, выявіць іх лексічнае значэнне і марфемную будову.

Марфемная будова слова павінна аналізавацца вучнямі не толькі ў асобных словах, але і ў сказах, тэкстах. У **практ. 93** прапануецца тэкст «Надвячорак у бары», у якім неабходна назваць асновы і канчаткі ў выдзеленых словах *надвячорак*, *бор*, *утвараюць*, *выскачылі*, *сасонкі*, *шашальнік*, *пранікаюць*, *чарнічнік*, *збуялы*, *выпаўзаюць*. Цяжкасці ўзнікаюць пры вызначэнні асновы і канчатка дзеясловаў *утвараюць* (*утвара-юць*), *выскачылі* (*выскачыл-і*), *пранікаюць* (*праніка-юць*), *выпаўзаюць* (*выпаўза-юць*). Неабходна растлумачыць вучням спосаб вызначэння канчатка ў дзеясловах. Дзеясловы *ўтвараюць*, *пранікаюць*, *выпаўзаюць* маюць форму 3-й асобы множнага ліку. А ў 1-й асобе множнага ліку дзеясловы маюць формы: *утвараем*, *пранікаем*, *выпаўзаем*. У 2-й асобе множнага ліку — *утвараеце*, *пранікаеце*, *выпаўзаеце*. Зменная частка слова з'яўляецца яго канчаткам. Частка слова без канчатка — аснова слова.

**Практ. 94**, **95**, **98** накіраваны на выпрацоўку ўменняў вылучаць марфемы ў словах тэкстаў розных тыпаў і стыляў. Напрыклад, у слове *няроўнае* прыстаўка *ня-*, *узгоркавае* — прыстаўка *уз-* і інш. Выкананне такіх практыкаванняў замацоўвае веды па тэме, дазваляе прымяняць іх на практыцы. А праводзіць работу па ўтварэнні новых слоў з дапамогай прыставак *пад-*, *пера-*, *за-* мэтазгодна пры выкананні **практ. 97**. У выніку словатворчасці атрымаюцца новыя словы: *пад'ехаць*, *пераехаць*, *заехаць*; *падпісаць*, *перапісаць*, *запісаць*; *падгаварыць*, *перагаварыць*, *загаварыць*.

Пры выпісванні з прапанаванага дыдактычнага матэрыялу слоў са значэннем асобы; сукупнасці аднародных прадметаў; са значэннем «набываць пэўную прымету» **(практ. 96)** мэтазгодна даць узор выканання

задання. Узор: *сасоннік*, *хвойнік*, *асіннік* — словы са значэннем сукупнасці аднародных прадметаў; *грузчык*, *трактарыст*, *кантрабасіст*, *гітарыст*, *гумарыст*, *цымбаліст* — словы са значэннем асобы і інш. Для пяцікласнікаў такое заданне будзе новым. У сувязі з гэтым яго лепш выканаць калектыўна.

З тэмай сачынення «Надыход восені» **(практ. 99)** вучні знаёміліся на папярэдніх факультатыўных занятках (пры вывучэнні марфемнай будовы слова і словаўтварэння). Таму раскрыццё тэмы не патрабуе падрабязнай гутаркі па змесце. Асноўную ўвагу вучні скіроўваюць на выяўленне слоў з сачыненняў, у якіх ёсць прыстаўкі, і вызначэнне іх семантыкі.

## Утварэнне слоў. Спосабы ўтварэння слоў: прыставачны, суфіксальны, прыставачна-суфіксальны; складанне асноў

Мэтай гэтых факультатыўных заняткаў з'яўляецца трывалае засваенне вучнямі спосабаў утварэння слоў. На пачатку заняткаў вучні павінны расказаць, што словы ўтвараюцца 1) з дапамогай прыставак (прыставачным шляхам), напрыклад, *ісці* — *зайсці*; *пісаць* — *перапісаць*; *горад* — *прыгарад*; 2) з дапамогай суфіксаў (суфіксальным шляхам), напрыклад, *лес* — *лясны*; *кастрычнік* — *кастрычніцкі*; 3) з дапамогай прыставак і суфіксаў (прыставачна-суфіксальным шляхам), напрыклад, *лес* — *пералесак*, *гара* — *узгорак*; 4) без суфіксаў і прыставак, напрыклад, *пераходзіць* — *пераход*; 5) шляхам складання асноў, напрыклад, *земл+я+мер*, *светл+а+вокі*, *земл+е+карыстанне*. Мэтазгодна, каб актуалізацыя ведаў па тэме суправаджалася падборам прыкладаў. У **практ. 100** патрабуецца прывесці па два-тры прыклады слоў, утвораных прыставачным, суфіксальным, прыставачна-суфіксальным спосабамі, а таксама шляхам складання асноў.

Для замацавання тэорыі прапануюцца тэксты **практ. 103**, у якіх трэба вызначыць спосаб утварэння слоў *паэтычных* (суфіксальны), *незвычайны* (прыставачны), *шматтомнік* (складанне асноў), *стагоддзямі* (складанне асноў), *каларытны* (суфіксальны), *непаўторны* (прыставачна-суфіксальны), *строгасць* (суфіксальны), *чуласць* (суфіксальны); знайсці словы, утвораныя прыставачным або суфіксальным спосабамі. Напрыклад, словы *нарадзіцца*, *скончыць*, *некаторы*, *пазнаёміцца*, *выйсці*, *замуж* утвораны прыставачным спосабам. Словы *шчаслівы*, *апранула*, *кофтачка*, *спаднічка*, *абула*, *дзявочы*, *халяўка*, *спявала*, *танцавала* ўтвораны суфіксальным спосабам.

Для абагульнення ведаў па тэме прапануецца **практ. 101**, у якім патрабуецца вызначыць спосаб утварэння выдзеленых слоў: *вадаспад* — складанне асноў, *мышалоўка* — складанне асноў, *падабраць* — прыставачны, *лужок* — суфіксальны, *турпаход* — складанне асноў, *дубняк* — суфіксальны, *выкладчык* — суфіксальны, *весялун* — суфіксальны, *хітрун* — суфіксальны, *сасняк* — суфіксальны, *абагнаць* — прыставачны, *разбагацець* — прыставачны, *разабраць* — прыставачны.

У **практ. 102** для такой работы прапануецца верш П. Панчанкі. Перад выкананнем лінгвістычнага задання — вызначэння спосабу ўтварэння выдзеленых слоў — мэтазгодна вызначыць асноўную думку верша, вызначыць словы, якімі паэт характарызуе родную мову.

Словы *ільняная*, *жытнёвая*, *сялянская*, *баравая*, *казачная*, *старажытнейшая*, *вобразная*, *вольная*, *пявучая* ўтвораны суфіксальным спосабам.

Перад напісаннем сачынення «Восенню ў лесе» **(практ. 104)** з ужываннем складаных слоў неабходна паўтарыць, што такое складаныя словы і стварыць тэматычную групу складаных слоў: *краявід*, *вадасховішча*, *своеасаблівы*, *штогод*, *рознакаляровы*, *жоўта-зялёны*, *вечназялёны*, *кароткачасовы*, *доўгачаканы*, *лістапад*, *чырвона-жоўты*, *марозаўстойлівы* і інш.

# Слова ў словазлучэнні і сказе

## Слова ў словазлучэнні. Галоўнае і залежнае словы ў словазлучэнні

Навучыць вылучаць галоўнае і залежнае словы ў словазлучэнні, вызначаць будову словазлучэння — асноўныя задачы гэтых факультатыўных заняткаў.

Фарміраванне ўмення вылучаць словазлучэнні ў сказах адбываецца пры выкананні **практ. 105**. З выдзеленых сказаў вучні павінны выпісаць наступныя словазлучэнні: *адвячоркавае сонца*, *медныя ствалы*, *залаціла ствалы*, *іх ствалы*; *лёгкі вецер*, *гойдаў верхавіны*, *гнуткія верхавіны*, *іх верхавіны*, *лёгкія хмары*, *чапляліся за верхавіны*; *ляжалі на зямлі*, *дзівосныя карункі*, *карункі святла і ценяў*.

Для пабудовы словазлучэнняў, вызначэння галоўнага і залежнага слоў у іх у **практ. 106** прапануецца дыдактычны матэрыял, які складаецца з размешчаных без усякай паслядоўнасці слоў: *цікавы*, *кніга*; *каша*, *з*, *грэчка*; *дэлегат*, *з'езд*; *урок*, *музыка*; *даліна*, *рака*. З гэтых слоў вучні павінны стварыць словазлучэнні *цікавая кніга*, *каша з грэчкі* (але: не *грэчневая каша*), *дэлегат з'езда*, *урок музыкі*, *даліна ракі*.

Словазлучэнні дакладней, чым слова передаюць інфармацыю. У гэтым можна пераканацца ў працэсе выканання **практ. 107**. Вучні ўдакладняюць з дапамогай залежных слоў значэнні слоў *хата*, *ручай*, *мінулае*, *сонца*, *газета*, *вільгаць*. Напрыклад: *вясковая хата*, *чысты ручай*, *далёкае мінулае*, *яркае сонца*, *свежая газета*, *цёплая вільгаць*.

У працэсе перакладу словазлучэнняў *ехать в город, болеть гриппом*, *пишите письма*, *внимательно слушать* у **практ. 108** вучні звяртаюць увагу на асаблівасці спалучэння галоўнага і залежнага слоў. Пераклад словазлучэнняў: *ехаць у горад*, *хварэць на грып*, *пішыце пісьмы*, *уважліва слухаць*.

## Слова ў сказе. Апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя сказы. Клічныя сказы. Знакі прыпынку ў канцы сказа. Будова сказа. Галоўныя члены сказа: дзейнік і выказнік. Даданыя члены сказа — дапаўненне, азначэнне, акалічнасць

Задачы дадзеных факультатыўных заняткаў — сфарміраваць у вучняў уменні адрозніваць словазлучэнні ад сказаў, вылучаць галоўныя і даданыя члены сказаў, характарызаваць апавядальныя, пытальныя, пабуджальныя, клічныя і няклічныя сказы.

Пераўтварэнне простых сказаў у складаны патрабуе разумення сутнасці гэтых моўных з'яў. Таму ў якасці творчай работы вучням мэтазгодна прапанаваць **практ. 109**, у якім патрабуецца трансфармаваць два простыя сказы ў складаны. Напрыклад:

1. Густы цёмна-зялёны ячмень з сінім налётам фанабэрыста распускае пышныя вусы. 2. Авёс шамаціць галінкамі.

Густы цёмна-зялёны ячмень з сінім налётам фанабэрыста распускае пышныя вусы, а авёс шамаціць галінкамі.

У **практ. 110** для разумення сутнасці дапаўнення, азначэння, акалічнасці як моўных з'яў даецца заданне падкрэсліць іх у тэксце. Для выканання гэтага задання вучням трэба ведаць, што такое даданыя члены сказа, чым яны адрозніваюцца. Важна правільна паставіць да даданага члена сказа пытанне, каб не зблытаць, напрыклад, дапаўненне і акалічнасць. У сказе *За акном сутонела* ставіцца пытанне *дзе?* ад дзеяслова *сутонела*. Значыць, *за акном* — акалічнасць месца.

Выкананне **практ. 111** садзейнічае развіццю мыслення, маўлення вучняў, паколькі стварэнне сказаў па мэце выказвання — апавядальных, пытальных, пабуджальных, па інтанацыі — клічных і няклічных патрабуе ад вучняў дакладнага размежавання гэтых моўных з'яў, а значыць, трывалых ведаў па тэорыі сказа. На аснове ведання тэорыі вучні фантазіруюць, імкнуцца правільна выкарыстаць слова ў маўленні, у сказе. Безумоўна, не ўсім па сілах такая работа. У гэтым выпадку можна прапанаваць заданне на вызначэнне сказаў па мэце выказвання і інтанацыі ў тэксце **(практ. 112)**. Такое заданне больш простае і не патрабуе творчасці.

У **практ. 113** трэба даказаць, што выдзелены ў тэксце сказ *Гамоняць і гамоняць пад ціхімі павевамі ветру лёгкія яшчэ каласы з жоўтымі пяшчотнымі завушніцамі на іх* з'яўляецца развітым. Доказ патрабуе важкіх аргументаў. Для гэтага пяцікласнікам мэтазгодна прапанаваць план:

1. Знайсці граматычную аснову ў сказе.
2. Знайсці даданыя члены сказа.

Магчыма, у такім сказе вучням будзе цяжка вылучыць граматычную аснову: *каласы гамоняць і гамоняць*. Таму практыкаванне павінна выконвацца калектыўна.

Вызначэнне акалічнасцей як даданых членаў сказа з-за іх шматлікіх разнавіднасцей выклікае ў вучняў цяжкасці. У сувязі з гэтым у **практ. 114**

патрабуецца прыдумаць сказы з акалічнасцямі месца, часу, спосабу дзеяння, якія б адказвалі на пытанні *дзе? куды? адкуль? калі? як?*. Напрыклад: Дзеці гуляліся *ў двары* (*дзе?*). Хлопцы вырашылі пайсці *дадому* (*куды?*). На гэтым этапе навучання пажадана, каб сказы былі простымі і змяшчалі толькі пэўную разнавіднасць акалічнасці.

Вывучэнне тэмы заканчваецца напісаннем сачынення «Летнія канікулы» (**практ. 115**) з шырокім выкарыстаннем клічных сказаў. Летніх канікул вучні заўсёды чакаюць з нецярпеннем, таму ў сачыненні будуць часта сустракацца сказы: *Нарэшце наступіла лета! Як хораша летам! Сёння — першы дзень канікул!* і інш.

## Сказы з аднароднымі членамі, знакі прыпынку

Мэта гэтых факультатыўных заняткаў — успомніць, якія члены сказа з'яўляюцца аднароднымі, якія знакі прыпынку ставяцца паміж аднароднымі членамі сказа, пасля абагульняльнага слова пры аднародных членах сказа.

Вучні паўтараюць звесткі аб тым, што члены сказа, якія адказваюць на аднолькавыя пытанні і адносяцца да аднаго і таго ж слова, называюцца аднароднымі членамі сказа. Напрыклад: Маладыя *бярозкі, дубкі, ясені* ўпрыгожвалі парк.

Паміж словамі — аднароднымі членамі сказа ставіцца коска. Коска не ставіцца, калі злучнікі *і*, *ды* ўжыты адзін раз. Напрыклад: *Хвоі і ліпы* разносілі водар навокал.

Пры аднародных членах могуць стаяць абагульняльныя словы. Пасля абагульняльнага слова перад аднароднымі членамі ставіцца двукроп'е. Напрыклад: Маладыя *дрэвы*: бярозкі, дубкі, ясені ўпрыгожвалі парк.

**Практ. 116** накіравана на выпрацоўку ўмення выяўляць сказы з аднароднымі членамі. Для такой работы можна прапанаваць тэкст паводле У. Караткевіча «Беларуская хата». Прапанаваны тэкст мае інфармацыйны характар і адрасуецца ўсім, хто цікавіцца гісторыяй і культурай беларускага народа. У тэксце сказаў з аднароднымі членамі няшмат, але іх неабходна заўважыць:

1. *Стол і лаўкі часцей за ўсё былі з тоўстых дубовых дошак.* 2. *Упрыгожвалі хату тканыя посцілкі і ручнікі.* 3. *Зойдзем у хату, якой яна была яшчэ нядаўна, а часам сустракаецца і зараз.* 4. *На іх звычайна пераважае вясёлка і жоўты, чырвоны, сіні, блакітны і іншыя колеры.* 5. *Прыгожа і ўтульна было!*

Выкананне **практ. 117** ускладняецца тым, што сказы з аднароднымі членамі, з абагульняльнымі словамі пры аднародных членах трэба прыдумаць самастойна і растлумачыць знакі прыпынку ў іх. Для выканання гэтага практыкавання трэба мець багаты слоўнікавы запас, умець аперыраваць назоўнікамі, прыметнікамі, дзеясловамі. Значнай дапамогай будзе ўзор выканання задання. У якасці ўзору можна прапанаваць наступныя сказы:

1. Маладыя *дрэвы: ліпы, каштаны, дубкі, клёны, ясені* — упрыгожвалі гэтую мясцовасць. 2. *Стучыць, грыміць, бразгаціць* няспраўны механізм. 3. Вясёлка пералівалася рознымі *колерамі: чырвоным, аранжавым, жоўным, зялёным, сінім, фіялетавым.*

Стварэнне тэксту па прапанаваным пачатку з выкарыстаннем аднародных членаў сказа і абагульняльных слоў пры іх завяршае серыю заданняў па тэме **(практ. 118)**. Можна прапанаваць узор выканання задання.

Да чаго прыгожая летняя раніца! У паветры яшчэ сыра. *Але сонца хутка прачнецца і сагрэе зямлю. Заспяваюць птушкі. Іх звонкая песня зазвініць на ўсё наваколле. Раскрыюцца насустрач сонечнаму цяплу кветкі: рамонкі, валошкі, дзікія гваздзікі, фіялкі.*

*Усё на зямлі радуецца лету!*

## Сказы са звароткамі, інтанаванне, знакі прыпынку

Актуалізаваць звесткі аб тым, што а) зваротак — гэта слова або спалучэнне слоў, якія называюць асобу або прадмет, да якіх звяртаюцца ў размове; б) зваротак не з’яўляецца членам сказа і выдзяляецца на пісьме коскамі або, калі стаіць у пачатку сказа, — клічнікам; сфарміраваць уменні выкарыстоўваць веды на практыцы — задача наступных факультатыўных заняткаў.

Выяўленне зваротКаў у тэкстах раскрывае функцыянальныя магчымасці гэтай моўнай з’явы. Знайсці ў тэкстах літаратурных твораў сказы са звароткамі патрабуецца ў **практ. 119**, **120**. У працэсе выканання задання вучні пераконваюцца ў тым, што зваротак указвае на таго, да каго звяртаюцца. Зваротак надае выказванню экспрэсіўна-эмацыянальнае адценне. Лінгвістычнае заданне спрыяе развіццю чытацкіх здольнасцей, а таксама пашырэнню кругагляду вучняў. Заданні такога характару садзейнічаюць ажыццяўленню міжпрадметных сувязей з літаратурай, што забяспечвае комплексны падыход да вывучаемай моўнай з’явы.

У **практ. 121** прапануюцца схемы, па якіх трэба скласці сказы са звароткамі. Пры вывучэнні сінтаксічных з’яў эфектыўным метадам засваення ведаў, фарміравання практычных уменняў і навыкаў з’яўляецца аналіз схем сказаў. Аналізуючы схемы сказаў, вучні «бачаць» сказ, хутка засвойваюць яго пунктуацыю. Узор выканання практыкавання:

*Зіна, пашый мне прыгожую сукенку. Зіна! Пашый мне прыгожую сукенку.*

*Выканайце, хлопцы, гэтае заданне своечасова. Выканайце гэтае заданне своечасова, хлопцы!*

Пад рубрыкай «Канструктарскае бюро» прапануецца заданне на перабудову апавядальных сказаў у пытальныя **(практ. 122)**. Выдзеленыя словы ў прапанаваных сказах трэба зрабіць звароткамі. Заданне патрабуе творчасці і фантазіі, а значыць, з задавальненнем будзе выконвацца пяцікласнікамі. Сказ *Алесь любіць гуляць у хакей* вучні павінны перабу-

даваць у *Алесь, ты любіш гуляць у хакей?* Сказ *Каця займаецца музыкай* у *Каця, ты займаешся музыкай?* Сказ *Сябры дапамаглі мне ўладкавацца на працу* ў *Сябры, дапамажыце мне ўладкавацца на працу*. Сказ *Дзеці разам выконвалі дамашнія заданні* ў *Дзеці, давайце разам выконваць дамашнія заданні!*

У **практ. 123** патрабуецца напісаць міні-сачыненне на адну з прапанаваных тэм («Да пабачэння, лета!», «Добры дзень, школа!», «Восень, я люблю цябе...»). Пры напісанні сачынення неабходна выкарыстаць звароткі. Назвы тэм таксама змяшчаюць у сабе зваротак, на што трэба звярнуць увагу вучняў. Тэматыка сачыненняў вучням ужо знаёмая з папярэдніх заданняў.

## Простая мова, яе афармленне на пісьме. Дыялог. Афармленне дыялога

Засвоіць афармленне простай мовы і дыялога на пісьме — асноўная задача гэтых факультатыўных заняткаў. Для дасягнення пастаўленай задачы вучням можна прапанаваць **практ. 124**, у якім патрабуецца прачытаць тэкст інфармацыйнага характару пра Курган Славы, растлумачыць знакі прыпынку пры простай мове. Дыдактычны матэрыял практыкавання дазваляе пагаварыць з вучнямі на тэму любові да Айчыны, да роднай зямлі.

Пераказаць тэкст з захаваннем простай мовы неабходна ў **практ. 125**. Тэкст мае апісальны характар. У тэксце адзін раз сустракаецца простая мова ў сказе: «*Цінь-цінь!*» — *раздаецца аднекуль зверху тонкі піск*. Тэкст апісальнага характару цяжка запомніць і падрабязна пераказаць. Таму для лепшага засваення зместу тэксту можна прапанаваць вучням план пераказу:

1. Ціха ў зімовым лесе.
2. Раптам раздаецца тонкі піск.
3. Гаічка — птушка ў чорнай шапачцы і з гальштучкам на шыі.
4. Попаўдзень хутка апускаўся ўніз галавой.
5. Сініца-маскоўка ў чорнай шапачцы, з кароткім хвосцікам.

Заданні на пастаноўку знакаў прыпынку садзейнічаюць фарміраванню адпаведных уменняў і навыкаў. Такую работу на факультатыўных занятках у пятым класе можна праводзіць у форме лінгвістычнай гульні «Ці жартам, ці ўсур'ёз?» (**практ. 126**). Прапанаваныя ў практыкаванні гумарыстычныя сказы вучні афармляюць як дыялог:

1. — Мама, крапіва кусаецца?
   — Кусаецца.
   — А як яна гаўкае?
2. — У мяне сёння страшэнна трашчыць галава.
   — Чаму ж трэску не чуваць?
3. — Вось выпадзе снег, прыціснуць маразы...
   — А я тады не пайду на вуліцу.

— Чаму?

— А каб мяне маразы не прыціснулі.

Варта высветліць прычыну жартоўнай сітуацыі. У сувязі з гэтым вучні павінны ўспомніць асаблівасці ўжывання слоў у прамым і пераносным значэнні.

Творчая работа па тэме заключаецца ў падборы да простай мовы слоў аўтара **(практ. 127)** і напісанні тэксту па пачатку **(практ. 128).**

Пачатак тэксту зацікавіць вучняў і падштурхне да творчасці і фантазіі. Мэтазгодна правесці з вучнямі гутарку аб магчымым развіцці сюжэту па пытаннях:

— Што ўбачыў настаўнік, калі ўвайшоў у клас?

— Як паводзілі сябе дзяўчаты і хлопцы, калі ўбачылі настаўніка?

— Як вы думаеце, чаму ўсе маўчалі і пільна глядзелі на Сашу?

— Як Саша падвёў таварышаў? **(***не змог прынесці макулатуру для класа, як абяцаў*; *недысцыплінавана вёў сябе і перашкаджаў працаваць на папярэднім уроку*; *не пайшоў на спаборніцтва, з-за чаго клас заняў апошняе месца па школе* і інш.**)**

# ДЫДАКТЫЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

## Тлумачальная запіска

Дыдактычны матэрыял адрасуецца вучням і настаўнікам, якія арганізуюць навучанне беларускай мове на факультатыўных занятках. Дыдактычны матэрыял падрыхтаваны ў адпаведнасці з праграмай факультатыўных заняткаў «Грані слова: ад гука да сказа» і праграмай па беларускай мове для 5 класа агульнаадукацыйных устаноў.

Дыдактычны матэрыял мае на мэце павысіць увагу да гукавога афармлення, семантыкі, сінтаксічнай спалучальнасці, складу слова і спосабаў яго ўтварэння з мэтай увядзення яго ў актыўны слоўнікавы запас вучняў.

Дасягненне пастаўленай мэты ажыццяўляецца шляхам вырашэння наступных задач:

а) сфарміраваць уменні вызначаць фанетыка-арфаэпічныя характарыстыкі слова, карыстацца словамі ў вусных выказваннях;

б) звяртаць увагу на выяўленне семантыкі слова і падбор да яго сінонімаў, антонімаў;

в) характарызаваць марфемную будову слова і спосабы яго ўтварэння;

г) узбагачаць слоўнікавы запас вучняў.

Слоўнікавая праца — адна з важных задач навучання мове, ад вырашэння якой залежыць узровень маўленчай культуры вучняў. Канцэпцыя моўнай адукацыі ў агульнаадукацыйных установах Рэспублікі Беларусь і распрацаваныя на яе аснове адукацыйны стандарт і праграма па беларускай мове арыентуюць на фарміраванне маўленчай культуры вучняў, авалоданне ведамі і практычнымі ўменнямі, якія забяспечваюць эфектыўную маўленчую дзейнасць у тыповых сітуацыях камунікацыі.

Паколькі слова як сістэма лінгвістычных значэнняў з'яўляецца аб'ектам вывучэння ў кожным раздзеле школьнага курса беларускай мовы, таму і работа па ўзбагачэнні слоўнікавага запасу вучняў заканамерна павінна праводзіцца на ўсіх узроўнях моўнай сістэмы.

Фанетыка і арфаэпія вывучаюць толькі знешні бок мовы, яе гукавое афармленне. Не маючы сэнсу, гукі служаць для ўтварэння значымых адзінак мовы, «матэрыялізуюць» іх. З гэтага вынікае, што слова без гукавой формы не існуе. Таму без знаёмства з фанетычнай сістэмай мовы немагчыма тэарэтычнае і практычнае вывучэнне слова.

Фанетычна аформленае слова адлюстроўваецца ў алфавіце і ў правілах чытання літар і іх спалучэнняў (графічных правілах), а таксама правілах напісання і вымаўлення. Рэгламентацыю правільнага напісання слоў дае арфаграфія, якая выяўляе суадносіны паміж фанетыкай і графікай і не можа выходзіць за магчымасці графікі.

На лексічным узроўні кожнае слова мае свой «твар» (сваю семантыку і спецыфіку ўжывання, гісторыю паходжання), але існуе не ізалявана, а ў сувязі з іншымі словамі. Узаемасувязь слоў дапамагае ім «раскрыцца», праявіць усе свае якасці на семантычным узроўні, ператварыцца з моўнай адзінкі ў мастацкае слова.

Марфемна-словаўтваральныя і лексічныя з’явы перакрыжоўваюцца пры стварэнні лексічнага значэння вытворнага слова, пры выбары марфем у працэсе ўтварэння новых слоў.

Матэрыял дапаможніка пададзены трыма блокамі: тэарэтычныя звесткі, заданні для самастойнай работы, кантрольныя пытанні і заданні.

Аснову заданняў для самастойнай работы складаюць слоўнікавыя і творчыя практыкаванні.

Слоўнікавыя практыкаванні накіраваны на фарміраванне фанетычна правільнага вымаўлення слоў, засваенне арфаэпічных нормаў літаратурнай беларускай мовы, асэнсаванае валоданне сінонімамі, антонімамі, аднакаранёвымі словамі, агульнаўжывальнай лексікай і лексікай абмежаванага ўжывання ў вусным і пісьмовым маўленні.

Творчыя практыкаванні накіраваны на развіццё звязнага (вуснага і пісьмовага) маўлення вучняў. У гэтую групу ўключаюцца практыкаванні на стварэнне вобразнага, эмацыянальнага, метафарычнага выказвання; рэдагаванне тэксту, выяўленне маўленчых недахопаў; выяўленне асаблівасцей ужывання слова ў тэксце пэўнага тыпу і стылю

і мэтанакіраваны выбар слоў для кантэксту; вызначэнне тыпу і стылю тэксту і інш.

Асноўны прынцып падачы матэрыялу ў дапаможніку — займальнасць. У сувязі з гэтым матэрыял падаецца праз разнастайныя рубрыкі, якія арыентуюць як на ўзнаўленне і паўтарэнне тэарэтычнага матэрыялу («Паслухайце мастакоў слова», «Лінгвістычны каментарый», «Гэта цікава!»), так і на фарміраванне і ўдасканаленне ўменняў і навыкаў («Спроба пяра», «Працуем перакладчыкамі», «Выпраўляем памылку», «Вясёлы перапынак», «Мы даследчыкі», «Давайце паразважаем»).

З мэтай праверкі ведаў, уменняў, навыкаў вучняў прапаноўваюцца кантрольныя пытанні і заданні.

# УВОДЗІНЫ

## Слова як адзінка мовы і маўлення. Слоўнікавы запас чалавека. Слова не верабей, вылеціць — не зловіш

### Успомнім

Слова вывучаецца ва ўсіх раздзелах курса мовы і выяўляе свае грані: гукавы склад, вымаўленне і напісанне, лексічнае значэнне, марфемны склад і спосабы ўтварэння, спосабы словазмянення, спалучальныя магчымасці.

Словы, якія чалавек свядома выкарыстоўвае ў маўленні, з'яўляюцца яго слоўнікавым запасам. Багаты слоўнікавы запас — неад'емная частка і ўмова маўленчага развіцця вучня.

### Давайце паразважаем

**1.** Прачытайце верш А. Канапелькі і выпішыце радкі, якімі паэт характарызуе роднае слова:

Адкрываю,
як свет,
нанова

беларускае
роднае слова,
пералівістае —
як каменьчык,
вясёлкавае —
як ручэй,
цёплае —
як агеньчык
добрых тваіх вачэй,
светлае —
як маланка,
гнеўнае —
як пярун,
ціхае —
як калыханка,
вечнае —
як Беларусь!

## Спроба пяра

**2.** Падрыхтуйце паведамленне на тэму «Слова ў вусным і пісьмовым маўленні». Закончыце паведамленне словамі: «Чалавек гаворыць слова, яно прагучыць і сціхне. Напісанае слова даносіць свой сэнс праз час, праз ход часу» (*К. Чорны*).

## Мы даследчыкі

**3.** Выпішыце з розных фальклорных і літаратурных крыніц выслоўі, прыказкі і прымаўкі пра мову, слова.

## Гэта цікава!

**4.** Вызначце лексічнае значэнне слоў: *лексікон*, *лексіка*, *лексікалогія*. Прыдумайце з гэтымі словамі сказы.

## Вясёлы перапынак

**5.** Растлумачце сэнс прыказкі: «Слова не верабей, вылеціць — не зловіш».

Нагадайце ўстойлівыя выразы павучальнага характару пра слова.

## Паслухайце мастакоў слова

Роднае слова — гэта першая крыніца, праз якую мы пазнаём жыццё і акаляючы нас свет. Пагэтаму нам неабходна так старанна вывучаць сваю родную мову, ведаць і любіць лепшыя творы беларускай літаратуры.

*Якуб Колас.*

Граматычны лад нашай мовы настолькі дасканалы, што дае магчымасць пабудаваць любую фразу, выказаць любую думку.

*Кандрат Крапіва.*

## Спроба пяра

**6.** Стварыце тэкст па прапанаваным пачатку. Напрыклад:

Да чаго прыгожая гэтая вясновая раніца! У паветры яшчэ сыра. На лісцях дрэў вісяць буйныя кроплі начных туманаў...

## Давайце паразважаем

**7.** «Загавары, каб я цябе ўбачыў», — казалі ў старажытнасці. Як вы разумееце гэты выраз?

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. Якія грані слова вывучаюцца ў курсе мовы?
2. Што такое слоўнікавы запас слоў?
3. Чаму слоўнікавы запас — неад'емная частка і ўмова маўленчага развіцця вучня?

## Слоўнік

*Слоўнікавы запас чалавека* — словы, якімі чалавек свядома аперыруе ў працэсе ўспрымання і спараджэння маўлення;

*мова* — найважнейшы сродак зносін паміж людзьмі. Праз мову мы спазнаём навакольны свет, гісторыю і культуру сваёй Бацькаўшчыны. Гэта строгая, уладкаваная сістэма, якая падпарадкоўваецца пэўным правілам, законам;

*маўленне* — вуснае і пісьмовае валоданне моваю; моўная дзейнасць.

# ГУКАВАЯ АБАЛОНКА СЛОЎ

## Ад гучання да напісання

### Успомнім

Слова без гукавой формы не існуе. Таму без знаёмства з фанетычнай сістэмай мовы немагчыма тэарэтычнае і практычнае вывучэнне слова.

Фанетычна афармленае слова адлюстроўваецца ў алфавіце і ў правілах чытання літар і іх спалучэнняў (графічных правілах), а таксама правілах напісання і вымаўлення.

### Лінгвістычная гульня

**8.** Пагуляйце ў гульню: «Згубленая літара». Адна літара ў словах згубілася: *в..рыва*, *гры..*, *ро..*, *ка..ка* і інш. Напішыце гэтыя словы.

### Выпраўляем памылку

**9.** Выпраўце памылкі, недакладнасці: «літара “*эс*” зычная, глухая»; «у гэтым слове літара “*о*” вымаўляецца як “*а*”».

### Гэта цікава!

**10.** Вызначце, як змяніцца семантыка слова *твар*, калі замяніць галосны гук *а* на гук *о*. Паразважайце, аб чым сведчыць гэты прыклад.

### Вясёлы перапынак

**11.** Ці абазначаюць што-небудзь асобныя гукі [д], [о], [м]?

Дзякуючы чаму адрозніваем мы на слых і па сэнсе словы *дом*, *дам*, *дым*; *нос* і *нас*; *нос* і *сон*?

Ці зменіцца значэнне слова *сон*, калі першы ці апошні зычны замяніць другім зычным? Якія словы можна атрымаць у выніку такой замены? (*Сок*, *сом*, *тон*, *фон* і інш.).

Якімі гукамі адрозніваюцца наступныя пары слоў? Якія пары слоў маюць адрозненне толькі на пісьме?

Род — рот, луг — люк, ёд — яд, быў — біў, бак — бок, сад — сядзь, грып — грыб, рэдка — рэдзька, суды — сюды, лыжы — лужы, мір — Рым, кот — код.

**12.** Размяркуйце наступныя словы ў алфавітным парадку.

Звонку, звесткі, злёт, звычай, злёгку, дзялянка, дзьмуць, дзяцел, джын, доказ, дзяўчына, дзевяць, дзёран, даследчык, дыялог, ігліца, ёлка, ельнік, ездзіць, журавіны, жытні, жыта, экзамен, эвалюцыя, экзотыка, этыкет, эцюд, юбіляр, шчодры.

### Лінгвістычная гульня

**13.** Пагуляйце ў гульню: «З мухі — слана...». Як ператварыць ката ў мыш? Гульня заснавана на змене адной толькі літары, але перамагае ў ёй той, хто не толькі здзейсніць ператварэнне, але і для гэтага знойдзе карацейшы шлях.

## Фантастычная краіна галосных і зычных гукаў

### Лінгвістычная казка

**14.** Прачытайце казку і перакажыце яе.

У адной незвычайнай і фантастычнай краіне жылі галосныя і зычныя весела, дружна і ў згодзе. Але аднойчы яны пасварыліся з-за таго, што палічылі сябе самымі важнымі пры вымаўленні слоў, і вырашылі раздзяліць сваю цудоўную краіну на дзве самастойныя часткі: краіну галосных і краіну зычных. Галосныя гукі ў краіне мелі наступныя імёны: націскныя — ненаціскныя; зычныя: звонкія — глухія, няпарныя звонкія і няпарныя глухія, шыпячыя — свісцячыя, цвёрдыя — мяккія і зацвярдзелыя.

Праз некаторы час з краіны галосных пачаў даносіцца плач, усхліпванні:

— А-а-а, — чулася навокал.

— І-і-і, — нехта падвываў тоненькім галаском.

— У-у-у, — цяжка.

У краіне зычных у гэты час чуліся гудзенне, звон, рыпенне і, увогуле, незразумелыя гукі:

— Л-л-л!

— П-п-п! І інш.

Зразумець нічога немагчыма было.

Раптам самы мудры галосны гук [э] сказаў:

— Я выпраўлю сітуацыю.

Ён пайшоў у краіну зычных і, паманіўшы зычныя гукі, кіўнуў у бок краіны галосных:

— Э-э-э!

Дзень быў настолькі сонечны і радасны, што спрыяў аднаўленню былых узаемаадносін паміж галоснымі і зычнымі. З таго часу жывуць галосныя і зычныя ў згодзе.

На якіх фанетычных правілах асноўваецца сюжэт казкі?

Назавіце ў лінгвістычнай казцы словы, у якіх гукаў больш (менш), чым літар; літары, якія абазначаюць глухія зычныя гукі; літары — паказчыкі мяккасці зычных, падоўжанага вымаўлення гукаў у словах.

## Мы даследчыкі

**15.** Знайдзіце словы з гукам [ў]. Прачытайце іх. Завучыце лічылку на памяць:

Ляцеў камар,
Трымаў ліхтар.
Ліхтар гарэў,
Камар ногі грэў.
Ліхтар упаў —
Камар прапаў.
Выходзь, камар,
Запалі ліхтар!

*М. Гіль.*

**16.** Знайдзіце словы з гукам [дз’], з гукам [дж]. Прачытайце іх. Прачытайце верш у асобах:

### Хітры пеўнік

Аднойчы ля крынічкі
Злавіла пеўніка лісічка.
— А я цябе, Пеця, з’ем...
— Дык мне ж усяго сем дзён.
Я ж маленькі, худзенькі
І важу сто грамаў.
Я лепш прывяду табе маму.
— Ну, ідзі, прывядзі,
Толькі глядзі — не падвядзі!

Пеўнік вырваўся з лап і — ходу!
Пырх — і на агароджу.
— Эх, лісічка, дурнічка мая,
Інкубатарны ж я!

*М. Скрыпка.*

## Стол даведак

Прыёмы размежавання звонкіх і глухіх зычных:

1. Вымавіць спачатку гукі [в], [б], [з], а потым — [к], [п], [т]. Першыя тры гукі вымаўляюцца больш гучна, чым астатнія. Значыць, першыя складаюцца з шуму і голасу, а другія — толькі з шуму і з'яўляюцца глухімі.

2. Затуліць вушы далонямі і выразна вымавіць тыя ж гукі. Пры вымаўленні звонкіх зычных у вушах чуецца своеасаблівы «звон», г. зн. голас; пры вымаўленні глухіх гэты «звон» адсутнічае.

3. Прыкласці да горла далонь і вымавіць гукі [б], [з], а потым — [п], [с]. Пры вымаўленні звонкіх зычных гукаў адчуваецца дрыжанне галасавых звязак, а пры вымаўленні глухіх зычных галасавыя звязкі не дрыжаць.

## Давайце паразважаем

**17.** Дакажыце, што гукі [з], [дз], [м] — звонкія, а гукі [к], [п], [ш] — глухія, выкарыстоўваючы прыёмы размежавання звонкіх і глухіх.

## Мы даследчыкі

**18.** Як вы разумееце сэнс прыказкі? Знайдзіце словы, у якіх літар больш, чым гукаў. Прачытайце іх:

Рана ў поле выязджай — будзе добры ўраджай.

## Лінгвістычная гульня

**19.** Лічыце, ды не памыліцеся! Колькі літар і колькі гукаў у словах *перамога*, *надзея*, *яблык*, *лью*, *ёмістасць*, *стагоддзе*, *пад'езд*, *надвор'е*, *галлё*, *жыццё*, *зацірка*, *страва*, *верабей*, *варыянт*? Свае запісы на лістках здайце ў журы, якое вызначыць, хто лепш разбіраецца ў суадносінах гукаў і літар.

**20.** Адгадайце загадку:

> [ДЖ] гаворыць: «Я адзін».
> ДЗ пярэчыць: «Двое!»
> А значэнне ў іх, сябры,
> Дык адно і тое.
> Хто, скажыце, адгадаў —
> Што гэта такое?

Якая фанетычная асаблівасць беларускай мовы ў ёй зашыфравана? Прыдумайце пяць слоў з адзначанай фанетычнай з'явай.

### Шукаем пару

**21.** Пералічыце парныя зычныя па звонкасці/глухасці. Назавіце няпарныя (звонкія і глухія) зычныя.

### Стол даведак

Зычныя [в, в', л, л', м, м', н, н', р, ў, й'] з'яўляюцца няпарнымі звонкімі.
Зычныя [к, к', ф, ф'] з'яўляюцца няпарнымі глухімі.

### Успомнім

**22.** Як вымаўляюцца гукі [з, с] перад наступнымі мяккімі зычнымі? Вымавіце наступныя словы: *свет*, *снег*; *звесці*, *знесці*.

### Давайце паразважаем

**23.** Вымавіце гукі, якімі адрозніваюцца словы *МАЗ* — *мазь*, *стан* — *стань*, *беларус* — *Беларусь*.

Вызначце па цвёрдасці/мяккасці гукі, абазначаныя падкрэсленымі літарамі ў парах слоў *<u>д</u>ва* — *<u>д</u>зве*, *<u>з</u>вcase* — *<u>з</u>вер*, *ра<u>с</u>кідаць* — *ра<u>с</u>капаць*, *<u>ц</u>натлівы* — *ба<u>ц</u>вінне*.

### Працуем перакладчыкамі

**24.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Падкрэсліце словы, у якіх ёсць мяккія зычныя гукі.

Бабушка разбудила меня рано утром. Мы пошли по землянику. Деревня еще тихо спала. На лугу стелился туман. Была от него мокрая трава.

Вот солнышко стало медленно подниматься. На росистой траве загорались от солнца огоньки земляники. Я наклонился, взял пальцами ягодку. Руки мои запахли лесом, травой и этой зарёю (*По В. Астафьеву*).

**Словы для даведак:** *земляника* (*рус.*) — *суніцы* (*бел.*), *медленно* (*рус.*) — *павольна* (*бел.*), *росистый* (*рус.*) — *росны* (*бел.*), *наклониться* (*рус.*) — *нахіліцца* (*бел.*), *заря* (*рус.*) — *зара, золак, досвітак* (*бел.*).

### Гэта цікава!

**25.** Прачытайце, як пісаў пра гукі беларускай мовы У. Караткевіч:

«[дз’] — як шкляной палачкай па крышталі, мяккі [с’] — як соннае ціўканне сінічкі ў гняздзе. І побач [р], як гарошына ў свістку, і доўга, пявуча, адкрыта гучаць галосныя. А [г] прыдыхае так ласкава, як маці на лобік дзіцяці, каб перастаў сніць дрэнны сон».

Вусна працягніце характарыстыку гукаў беларускай мовы.

### Успомнім

**26.** Прачытайце ўрывак з верша.

Цішыня агортвае мне душу.
Вецярок прыдарожную грушу
Ледзьве чутна варуша-калыша,
Міла бомы смяюцца ў цішы,
Ціха срэбрам грукае крыніца.
Добрай ночы, зара-заранiца!

*М. Багдановіч.*

Якія арфаэпічныя нормы трэба захоўваць пры чытанні верша?

### Спроба пяра

**27.** Складзіце апавяданне на тэму «Якім павінна быць вуснае маўленне чалавека?»

### Выпраўляем памылку

**28.** Выпраўце немілагучнасць фраз:

Аб бацьку і аб бабулі яны чулі толькі самае добрае.

Паша Сашу пашыла папаху.

Прыдумайце фразы, якія неабходна адрэдагаваць.

## Мы даследчыкі

**29.** Прачытайце тэкст і спішыце яго. Устаўце прапушчаныя літары. Вызначце, якія арфаэпічныя і арфаграфічныя нормы неабходна захоўваць у выдзеленых словах?

За акном сутонела. *Свае* апошнія *в..чэрнія песні дапявалі* птахі. *Недзе* далёка-далёка гуў грузавік, і па яго *адзінокім* гудзе выразна чулася ўся *с..ішаная* прастора палёў.

Надзея Іванаўна *..ключыла* прыёмнік. Абазваліся, тонка запелі струны, і вольна паліўся *мужчынскі* голас, журботны і адначасова нейкі суровы і тужлівы. *Засп..вай* пра поле, роднае поле (*М. Вышынскі*).

## Незразумелыя сказы

**30.** Ці маюць сэнс наступныя сказы?

Кулі ляцелі праз кулі. Краты падлезлі пад краты. Каралі каралі.

Навошта ў сказах паўтараюцца адны і тыя ж словы? Калі такія сказы можна выкарыстоўваць у маўленні?

## Працуем перакладчыкамі

**31.** Перакладзіце словы на беларускую мову: *темный*, *день*, *твердый*, *медведь*, *подвиг*; *затишье*, *ночью*, *колосье*, *мазью*, *медью*, *побережье*, *раздолье*.

Раскажыце пра дзеканне і цеканне, пра падаўжэнне ў беларускай мове.

У прапанаваных словах параўнайце вымаўленне гукаў у беларускай і рускай мовах.

## Вясёлы перапынак

**32.** Прачытайце лічылку. Адзначце асаблівасці вымаўлення ў словах гукаў [г], [дз’], [ц’], [с’], [л’].

Як цудоўна гэта, дзеці,
Што ёсць літары на свеце —
Зычныя, галосныя!

Да адной адну дадаць —
Можна словы з іх складаць,
Смешныя, сур’ёзныя!
Слова ты —
Слова я.
Пачынаецца гульня.

Завучыце лічылку на памяць.

### Працуем перакладчыкамі

**33.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Якога роду назоўнік *сабака* ў рускай і беларускай мовах? Параўнайце правапіс прыставак у выдзеленых словах у беларускай і рускай мовах.

У собаки были щенки на дворе, на сене. Собака *ушла*. Дети *пришли*, *достали* щенка и *отнесли* на печку.

Собака вернулась, не нашла щенка и завыла. Дети *сняли* щенка с печки и *отдали* собаке. Собака *понесла* щенка опять на место (*По Л. Толстому*).

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. Што вывучае фанетыка, арфаэпія, графіка, арфаграфія?
2. Пералічыце галосныя гукі, а потым назавіце літары, што перадаюць галосныя гукі на пісьме.
3. Пералічыце зычныя парныя па звонкасці/глухасці, цвёрдасці/мяккасці.
4. Назавіце зацвярдзелыя, шыпячыя, свісцячыя зычныя гукі.
5. Пералічыце прыёмы размежавання звонкіх і глухіх зычных гукаў.
6. Як вымаўляюцца гукі [дж], [дз’], [дз] у беларускай мове?
7. Як вымаўляюцца зычныя [з], [с] перад наступнымі мяккімі зычнымі, акрамя [г’], [к’], [х’]?

## Слоўнік

*Арфаграфія* — раздзел навукі аб мове, у якім вывучаюцца правілы напісання слоў;

*арфаэпія* — раздзел навукі аб мове, у якім вывучаюцца правілы вымаўлення гукаў і іх спалучэнняў;

*галосны гук* — гук мовы, пры вымаўленні якога паветра свабодна праходзіць праз поласць рота; у беларускай мове шэсць галосных гукаў (*а*, *о*, *у*, *ы*, *і*, *э*);

*графіка* — раздзел навукі аб мове, у якім вывучаюцца правілы абазначэння гукаў на пісьме;

*зычны гук* — гук мовы, пры вымаўленні якога паветра сустракае перашкоду ў поласці рота (*б*, *в*, *г*, *д*, *ж* і інш.);

*фанетыка* — раздзел навукі аб мове, у якім вывучаюцца гукі і іх характарыстыкі.

# ЛЕКСІЧНАЕ ЗНАЧЭННЕ СЛОВА

## Дрэва са шматлікімі галінкамі

### Давайце параўнаем

Жыццё шматлікіх слоў падобна да жыцця дрэва са шматлікімі галінкамі, адны з якіх схіляюцца адна да адной, другія — разыходзяцца ў процілеглым напрамку, але ўсе галінкі бяруць свой пачатак ад ствала, па якім карані гоняць жыватворныя сокі. Карані дрэва параўнаем з «жывой народнай мовай». З дыялектных слоў вучоныя, пісьменнікі адбіралі назвы, якія б былі зразумелыя большасці людзей, якія б найбольш дакладна, выразна абазначалі прадмет, з'яву рэчаіснасці. Такія словы атрымалі назву «літаратурныя».

Што абазначае слова *дрэва*? Адкрыем тлумачальны слоўнік беларускай мовы: дрэва — «шматгадовая расліна з цвёрдым ствалом і галінкамі, якія ўтвараюць крону». Тое, што абазначае слова, з'яўляецца яго лексічным значэннем. Лексічныя значэнні слоў падаюцца ў тлумачальных слоўніках.

### Мы даследчыкі

**34.** З дапамогай тлумачальнага слоўніка беларускай мовы вызначце лексічнае значэнне слоў: *абаранак*, *барвовы*, *дзівосны*,

*задума*, *згода*, *здань*, *знічка*, *пінчук*, *хлусня*, *шэры*, *шчаслівы*, *шызы*.

### Гэта цікава!

Словы, якія выкарыстоўваюцца пераважна ў тым ці іншым стылі, лічацца стылістычна афарбаванымі. Напрыклад, словы *атам*, *вектар*, *малекула* надаюць мове стылістычнае адценне кніжнасці і з'яўляюцца тыповымі для навуковага стылю. Для гутарковага стылю, напрыклад, характэрны словы *бліны*, *зацірка*, *буркалы* і інш.

### Давайце паразважаем

**35.** Вызначце, для якіх стыляў характэрны словы: *хадзіць*, *валачыцца*, *брахня*, *малекула*.

### Пішам пераказ

**36.** Прачытайце тэксты, вызначце іх стыль. Перакажыце тэксты, правільна выкарыстоўваючы характэрную для іх лексіку.

Кветка шыпшыны мае 5 пялёсткаў, 5 чашалісцікаў, шмат тычынак і песцікаў. Завязі песцікаў схаваны ў ёмістым увагнутым кветаложы, падобным да бакала. Добра прыметна шыпшына і восенню, калі на ёй выспяваюць аранжавыя ці чырвоныя сакавітыя «ягады», якія не з'яўляюцца сапраўднымі пладамі шыпшыны... (*В. А. Карчагін*).

А як добра ў чэрвені ў жытным! Гамоняць і гамоняць пад ціхімі павевамі ветру лёгкія яшчэ каласы з жоўтымі пяшчотнымі завушніцамі на іх. Яны нібы цягнуцца да празрыстага неба і просяць спагады ў прыгожыя часы свайго красавання. І хоць няма ні зярняці ва ўсім гэтым хвалюючым моры, а ўжо чуецца ледзь-ледзь хлебны пах, які так прыемна казыча ноздры. Густы цёмна-зялёны ячмень з сінім налётам фанабэрыста распускае пышныя вусы. Авёс шамаціць галінкамі, нібы адмысловымі каралямі. Доўгімі зялёнымі шнурамі выцягнулася бульба. Толькі расплюшчвае вочы лён, а на сенажацях кветак, што і не пералічыць... (*П. Броўка*).

## Агульнаўжывальныя словы і словы абмежаванага ўжытку

### Успомнім

Агульнаўжывальнымі словамі карыстаюцца ўсе носьбіты мовы. Агульнаўжывальныя словы адносяцца да ўсіх часцін мовы.

Да слоў абмежаванага ўжытку адносяцца дыялектныя і прафесійныя. Дыялектныя словы ўжываюцца ў пэўнай мясцовасці.

Прафесійнымі словамі карыстаюцца людзі пэўнай прафесіі.

### Гэта цікава!

**37.** Падбярыце агульнаўжывальныя словы на тэму «Адзенне».

### Спроба пяра

**38.** Стварыце замалёўку «У краме».

Узор: Недарагія рэчы бацькі дазваляюць мне купляць самому. Я зайшоў у краму і запытаўся ў прадаўца: «Скажыце, калі ласка, куды мне звярнуцца? Я хачу купіць кашулю». Мне ветліва адказалі. Я зрабіў пакупку, падзякаваў прадаўцу, які дапамог мне выбраць патрэбны памер, колер. Кашуля спадабалася бацькам.

### Мы даследчыкі

**39.** Растлумачце лексічнае значэнне падкрэсленых агульнаўжывальных слоў. Як вымаўляюцца і чаму так пішуцца выдзеленыя часткі слоў?

**Згі**нулі **сцю**жы, марозы, **мя**целіцы,
Болей **не** мерзне душа ні адна,
Сонейкам **цё**пленькім, зеленню <u>вабнаю</u>
Аддаравала **зя**мельку **вя**сна.
Рэчкі <u>бурлівыя</u>, ўчора <u>санлівыя</u>,
Сё**ння** ўсталі, плывуць і бурляць;
**Рыб**кі <u>шмыглівыя</u> скачуць, купаю**цца**,
К небу <u>прыветна</u> з вад**зі**цы гля**дзя**ць.

*Я. Купала.*

## Давайце паразважаем

**40.** Вылучыце дыялектныя словы ў тэксце. Прывядзіце агульнаўжывальныя адпаведнікі.

Чаму гераіня так гаворыць? Чаму пісьменнік захаваў дыялектныя словы ў літаратурным творы?

— Шчэ еш, — сказала Ганна. — Ты ж не пад'еў.
— Не, хопіць...
— Нясмачная, можа, картопля?
Ён сапраўды не заўважыў, смачная ці нясмачная была гэтая бульба (*І. Мележ*).

## Гэта цікава!

**41.** Знайдзіце ў тэкстах прафесійныя словы, растлумачце іх значэнне. Людзі якой прафесіі імі карыстаюцца?

Сакаленне, від вышыўкі, якую выконваюць па сетцы, утворанай выцягваннем пэўнай колькасці нітак асновы і ўтку. Называюць таксама гаптаванне, расшыванне, строчка. Сетку абшывалі белымі ніткамі для трываласці, а потым вышывалі насцілам. Найбольш старажытнай па паходжанні была слань — вышыўка па неабвітай сетцы цыравальным швом. Такой вышыўкай аздаблялі ручнікі, падолы фартухоў («*Этнаграфія Беларусі*»).

Невад — традыцыйная рыбалоўная снасць. Складаецца з сеткавага мяшка (куля) і двух прывязаных да палотнішчаў, па супрацьлеглых баках кожнага працягвалі вяроўкі (цецівы). Верхняя вяроўка аснашчалася паплаўкамі, ніжняя — грузіламі. Каб у час руху крылы не скручваліся, на іх канцах мацавалі тоўстыя палкі («*Этнаграфія Беларусі*»).

Хамут — асноўная частка вупражы. Надзяваецца на шыю каня. Хамут складаецца з двух драўляных паўдужкаў, абцягнутых скурай. Хамутовая вупраж найбольш пашырана ў параўнанні са шлейнай і ярэмнай («*Этнаграфія Беларусі*»).

### Спроба пяра

**42.** Напішыце сачыненне на тэму «Прафесія, якую я выбіраю», ужываючы прафесійную лексіку. Прафесійныя словы падкрэсліце.

План сачынення:
1. Чаму я выбіраю гэту прафесію?
2. Кім працуюць мае бацькі?
3. Як атрымаць любімую прафесію?

## Устарэлыя словы і неалагізмы

### Лінгвістычны каментарый

Лісточкі на дрэве жаўцеюць і пачынаюць ападаць. Набліжаецца восень. Гэты звычайны працэс прыроды напамінае нам пра старэнне. «Старэць» могуць і словы. Як незнаёмая назва гучыць для нас слова *алебарда*, хаця ў старажытнасці яно было ўсім вядома, абазначала від зброі. Чаму «старэюць» словы?

Па-першае, могуць знікаць з выкарыстання пэўныя прадметы, і тады людзі перастаюць ужываць у сваіх зносінах назвы гэтых прадметаў. Менавіта такі лёс спасціг словы *алебарда*, *фальварак*, *брычка*, *аканом* і інш.

Па-другое, прадмет ці з'ява могуць існаваць у рэчаіснасці, але памяняць назву. Так атрымалася са словамі *атрамант*, *вакацыі*, *чало*, якія былі заменены назвамі *чарніла*, *канікулы*, *лоб*.

Словы «старэюць», але мова неўміручая, бо побач з працэсам старэння ідзе працэс нараджэння новых слоў. Так, яшчэ не вельмі працяглы час існуюць у мове словы *нік*, *чат*, *сокет*. Іх называюць неалагізмамі.

### Мы даследчыкі

**43.** Выпішыце ўстарэлыя словы. Вызначце прычыну «старэння» слоў.

1. Сцёпка зусім павесялеў. 2. Выйшаў са станцыі на пад'езд, запытаў людзей, дзе знаходзіцца Дом селяніна, даведаўся, што на другім канцы горада, што, сеўшы на конку, можна даехаць аж да самага таго дома (*Я. Колас*). 3. Ну і маладзец, на раб-

фак табе паступіць трэба (*Я. Колас*). 4. Загорская сямігодка была распушчана на два тыдні зімовых вакацый (*Я. Колас*). 5. Позняй восенню Сцёпкава маці сядзела за прасніцаю, а Міхайла Барута майстраваў сані на зіму (*Я. Колас*).

**Спроба пяра**

**44.** Прыдумайце казку, у якой могуць быць ужыты ўстарэлыя словы: *лучына*, *газоўка*, *лучнік*, *аканом*, *брычка*, *дзесяціна*, *лапці*, *залатоўка*, *фальварак*.

**Вясёлы перапынак**

**45.** Запішыце як мага больш неалагізмаў. Растлумачце іх значэнне.

**Спроба пяра**

**46.** Напішыце невялікае сачыненне на тэму «Што я ведаю пра інтэрнэт?»

## Словы «свае» і «чужыя»

**Лінгвістычны каментарый**

**47.** Прачытайце і перакажыце тэкст. Назавіце прыметы запазычаных слоў.

Ва ўсякай мове ёсць словы «свае» і «чужыя» — тыя, якія прыйшлі з іншых моў. Напрыклад, словы *дом*, *ехаць*, *белы* для беларускай мовы спрадвечныя, а словы *манумент*, *відэлец*, *аранжавы* — запазычаныя: *манумент* — з лацінскай мовы, *відэлец* — з польскай, *аранжавы* — з французскай. Запазычанне слоў — неабходны працэс моўнага развіцця. Некаторыя словы прыйшлі да нас даўно, і зараз толькі вучоныя-лінгвісты могуць вызначыць іх «запазычанасць». Такім, напрыклад, з’яўляецца слова *хлеб*, якое было запазычана са старажытнагерманскай мовы. Зараз гэтыя словы не маюць ніякіх прымет запазычанасці. У больш свежых, нядаўніх запазычаннях такія прыметы захоўваюцца. Напрыклад, калі слова пачынаецца з літары *а* — гэта прымета таго, што перад намі запазычанае слова: *абажур*, *аўтобус*, *акцёр*, *анекдот*. Калі назоўнік не скланяецца, то гэта такса-

ма знак яго запазычанасці: *сальта*, *даміно*, *кенгуру*. Прыметай запазычанасці з'яўляецца гук [ф] у словах: *нафта*, *фізіка*, *факт*; гук [э] ў пачатку слова: *эра*, *эпоха*; спалучэнне гукаў, не характэрнае для беларускай мовы: *тэатр*, *геалогія*, *тратуар*, *прэзідыум*, *кювет*. Што ж «прымушае» адну мову прымаць да сябе словы з другой мовы? Гэта гандлёвыя, навуковыя, культурныя, палітычныя сувязі беларусаў з іншымі народамі.

### Мы даследчыкі

**48.** З дапамогай тлумачальнага слоўніка вызначце лексічнае значэнне запазычаных слоў нямецкага паходжання.

Арышт, гантэль, кошт, кухня, ліхтар, муфта, пакгаўз, феерверк, фехтаваць, флюс, цэнтрыфуга, шайба, шлагбаум, штурм.

### Вясёлы перапынак

**49.** Устаўце прапушчаныя запазычаныя словы адпаведна кантэксту.

Раздзел мовазнаўства, які вывучае гукі мовы, — ... .
Сукупнасць усіх слоў мовы — ... .
Частка слова, якая стаіць пасля кораня і пры дапамозе якой утвараюцца новыя словы, — ... .
**Словы для даведак**: *фанетыка*, *суфікс*, *лексіка*.

**50.** Устаўце прапушчаныя літары ў запазычаныя словы.

*Камп'ют..р*, *архіт..ктура*, *ш..дэўр*, *ліц..нзія*, *р..стаўрацыя*, *т..мпература*, *вунд..ркінд*.

З прапанаванымі запазычанымі словамі прыдумайце сказы.

### Давайце паразважаем

**51.** Устаўце падыходзячыя па сэнсе словы *рэстаўрыраваць*, *аднаўляць* у сказы і абгрунтуйце свой выбар.

1. Каб вы не чапалі гэты зруб, то ён, напэўна, збруцвеў бы там і ніхто б яго не ... . 2. Спецыялісты ... сцены старажытнага палаца. 3. Міхась ... сяброўскія ўзаемаадносіны з Алесем і Алінай. 4. Усе архітэктурныя помнікі, у тым ліку

і нядаўна выяўленыя, павінны ўвайсці ў спіс аб'ектаў, якія неабходна ... . 5. Бачыў у Салотчы новую гасцініцу і шэдэўр старога манастыра, які якраз ... (*У. Караткевіч*).

**Запомнім**

**52.** Прачытайце, запомніце запазычаныя словы, у якіх гук [г] гучыць не так, як у спрадвечна беларускіх словах. Растлумачце з дапамогай тлумачальнага слоўніка лексічнае значэнне слоў *гарнец*, *гірса*, *гонта*, *нягеглы*.

Га́нак, га́рнец, гвалт, гірса́, го́нта, гуз, гу́зік, зацугля́ць, нягéглы, ро́згі.

**Самастойная работа**

**53.** Выпішыце са школьнага падручніка па якой-небудзь дысцыпліне невялікі тэкст з запазычанымі словамі. Запазычаныя словы падкрэсліце, растлумачце іх лексічнае значэнне з дапамогай тлумачальнага слоўніка.

## Механізм мнагазначнасці

**Запомнім**

У выніку набыцця словам пераноснага значэння ўзнікае мнагазначнасць.

**Мы даследчыкі**

**54.** Знайдзіце словы ў пераносным значэнні ва ўрыўку з верша Якуба Коласа «Усход сонца»:

На ўсходзе неба грае
Пераліўным блескам,
Сыпле золатам над гаем
І над пералескам.

**Спроба пяра**

**55.** Складзіце словазлучэнні, у якіх прыведзеныя словы ўжываліся б у прамым і пераносным значэннях.

Моцнае ..., залаты ..., цёплае ..., высокі ..., свежы ... .

## Вясёлы перапынак

**56.** З кожным прапанаваным словам складзіце як мага больш словазлучэнняў так, каб у адным з іх слова было ўжыта ў прамым значэнні, а ў астатніх — у пераносным.

Узор: *востры нож* — *востры розум*, *вострыя пачуцці*, *вострае слова*, *вострая сітуацыя*, *вострае становішча*, *вострае пытанне*.

Хваля, салодкі, салёны, халодны, калючы, кіслы.

## Мы даследчыкі

**57.** Прачытайце верш С. Грахоўскага «Асенні дзень».

Дзень па-асенняму кароткі.
Зганяе вецер з хваль луску,
І перавернутыя лодкі
Гудуць на стоптаным пяску.
Празрыста, пуста і сцюдзёна.
Бярэзнік, як манетны двор,
Чаканіць золата штодзённа
І шчодра кідае ў касцёр...

Растлумачце сэнс выразаў *луска хваль*; *бярэзнік, як манетны двор*, а таксама выявіце значэнне, у якім ужыта ў вершы слова *касцёр*.

## Спроба пяра

**58.** Прыдумайце 10—15 слоў тэматычнай групы «восень», якія б спатрэбіліся для вуснага сачынення на тэму «Восеньская раніца».

## Гэта цікава!

**59.** Вызначце значэнне слова *хлеб* у прапанаваных сказах.

1. Ідзеш на дзень — *хлеба* бяры на два. Ядуць на свеце *хлеб* траякі: чорны, белы і ніякі (*Прыказкі*). 2. *Хлеб* па *хлебу* сеяць — ні малаціць, ні веяць (*Прыказка*). 3. Ох, дачушка, *хлеб* твой горкі, горка твая доля! (*Я. Колас*).

### Спроба пяра

**60.** Адкажыце, у якіх значэннях ужыты ў вершы мнагазначныя дзеясловы *смяецца*, *зіяе*, *мкнуцца*, *расцвіла*. Стварыце і запішыце замалёўку пад назвай «Смяецца поле».

А за сц..ной смяецца поле.
Зіяе неба з-за ..кна, —
І думкі мкну..ца мімаволі
Туды, д..е ра..цвіла в..сна.

*М. Багдановіч.*

### Выпраўляем памылку

**61.** Адрэдагуйце тэкст, памылкі ў якім звязаны з ужываннем слова ў нехарактэрным лексічным значэнні.

Пуховы белы снег пачарнеў, з'ёжыўся і зрабіўся зусім бездапаможным. Прайшла яго пара. Хутка вясна! Зашчабечуць птушкі, расквеціцца ўсё навокал, паветра напоўніцца душэўным водарам з палёў, лясоў, лугоў (*З сачынення вучня*).

## Амонімы

### Стол даведак

Мнагазначнае слова абазначае з'явы, прадметы, дзеянні ў нечым падобныя. Напрыклад, *ідзе* чалавек, *ідзе* час. Словы-амонімы — з'явы, якія не маюць паміж сабой нічога агульнага. Напрыклад, *аўсянка* (птушка), *аўсянка* (каша).

### Спроба пяра

**62.** Стварыце гумарыстычную замалёўку на аснове мнагазначных слоў або слоў-амонімаў, напрыклад:

Бабуля дастала з печы невялікі чыгунок і, паставіўшы яго на стол, сказала:

— Еш, унучак, дамашнюю *бабку*.

— А чаму не клічам дзядулю? Ён казаў, што ўжо гадзіну шукае бабку.

— Гэта, унучак, іншая *бабка*, на ёй касу дзядуля будзе *адбіваць*. Потым *бабкі* пойдзе ставіць ды ржышча касіць.

— Пабягу, дзядулі дапамога трэба. А ад каго касу *адбіваць* трэба?

— Ах ты, аніка-воін, ніхто не захапіў нашу касу, а *адбіваць* — значыць вастрыць касу.

## Гэта цікава!

**63.** Складзіце сказы са словамі.

*Соль* — 1) рэчыва, 2) гук.

*Адажыа* — 1) памета аб павольным тэмпе перад нотным запісам, 2) музычны твор у павольным тэмпе.

## Мы даследчыкі

**64. А.** Знайдзіце ва ўрыўку з балады Я. Крупенькі «Вечны агонь» словы-амонімы. Вызначце іх лексічнае значэнне:

...Дзеці гулялі,
Бацькоў чакалі,
Сустракаць выбягалі
На шырокі гасцінец,
Прынясе можа татка з вайны ім гасцінец?

**Б.** Карыстаючыся тлумачальным слоўнікам беларускай мовы, растлумачце ўсе значэнні слоў: *кампанія*, *загадаць*, *нота*.

**В.** Раскажыце, як фіксуюцца амонімы ў тлумачальных слоўніках.

## Давайце паразважаем

**65.** Дакажыце, што словы, якія маюць напісанне *світа*, *міна*, *ліра*, з'яўляюцца амонімамі.

## Вясёлы перапынак

**66.** Назавіце словы-амонімы па лексічным значэнні:

1) «хімічны элемент», «стары густы сасновы лес»;

2) «ільдзіна», «рыбалоўная снасць»;

3) «адшліфаванае шкло, здольнае даваць адбіткі прадметаў», «падвесны асвятляльны прыбор»;

4) «умоўны знак, якім абазначаюць музычны гук», «афіцыйны дыпламатычны зварот».

## Сінонімы

### Успомнім

У мове існуюць словы-сінонімы, якія гучаць і пішуцца па-рознаму, але абазначаюць адно і тое ж паняцце. Так, кавалак, глыба лёду абазначаецца словамі *льдзіна* або *крыга*.

Сінонімы выкарыстоўваюцца з мэтай дакладнага і выразнага апісання фактаў або падзей, стварэння мастацкай вобразнасці і інш. Часта сінонімы выкарыстоўваюцца, каб пазбегнуць паўтораў, а таксама для сувязі сказаў у тэксце.

### Гэта цікава!

**67.** Складзіце сказы са словамі-сінонімамі.

Невядомы, неразгаданы, безыменны, ананімны.

Растлумачце адценні лексічнага значэння слоў-сінонімаў.

### Мы даследчыкі

**68.** Спішыце тэкст. Знайдзіце ў тэксце сінонімы і вызначце іх ролю ў тэксце.

Зноў убачыла Ганна Параску пад вечар. Параска ішла не адна. За ёй кіравалі з вуліцы да школы Дубадзел, Гайліс, Чарнаштан. Дубадзел у галіфе, з ваеннай сумкай цераз плячо рэзаў побач Парaскі лёгка і нібы весела. Гайліс крочыў у зашпіленым шынялі. Вецер ірваў полы шыняля і замінаў ісці. Барыс ступаў каля Гайліса. Чарнаштан дыбаў ззаду ўсіх, уткнуўшыся позіркам кудысьці ў зямлю, вінавата прыгорблены... Ганна намерылася было падацца на кухню... (*Паводле І. Мележа*).

### Выпраўляем памылку

**69. А.** Знайдзіце лішнія словы.

Радасць, шчасце, пачуццё; мовавед, лінгвіст, чалавек; дарога, гасцінец, шлях, сцежка, скрыжаванне.

**Б.** Адрэдагуйце сказы, выкарыстоўваючы словы-сінонімы.

1. Мядзведзь быў ужо *пажылы*. 2. Шмат *твораў стварыў* пісьменнік.

## Вясёлы перапынак

**70.** Размясціце словы-сінонімы па меры павелічэння або памяншэння прыметы, якасці.

Здзівіць, ашаламіць, уразіць, азадачыць.
Ісці, крочыць, брысці, сунуцца, шыбаваць.
Лес, гай, пушча, тайга, гушчар, сасняк.

## Правяраем сябе

**71.** Напішыце лінгвістычнае апавяданне на тэму «Сінонімы ў беларускай мове», карыстаючыся планам.

1) Сінонімы — словы, розныя па гучанні і напісанні.
2) Сінонімы абазначаюць адно і тое ж паняцце.
3) Выкарыстанне сінонімаў у маўленні.

## Давайце паразважаем

**72.** Параўнайце дзве рэдакцыі ўрыўкаў з трылогіі Я. Коласа «На ростанях». Якімі сінонімамі заменены ў рэдакцыі 1954 г. выдзеленыя словы?

**Рэдакцыя 1928 г.**

У *раскладзе* гаспадарчых будынін на двары таксама не было пэўнага парадку.

Нізкае сонца *праразалася* скрозь макушы лесу.

Вёска была досыць вялікая, цягнулася ў адну лінію, і толькі каля цэркаўкі яна *скупавалася* гушчэй і вышэй.

Вечарам, закончыўшы работу ў школе, Лабановіч выходзіў часамі прайсціся.

**Рэдакцыя 1954 г.**

У размяшчэнні гаспадарчых будынін на двары таксама не было пэўнага парадку.

Нізкае сонца ледзь прабіралася скрозь макушы лесу.

Вёска была досыць вялікая, цягнулася ў адну лінію, і толькі каля цэркаўкі хаты гуртаваліся гусцей і шырэй.

Вечарам, закончыўшы заняткі, Лабановіч выходзіў часамі прайсціся.

## Антонімы

### Паслухаем казку

**73.** Жылі-былі сем братоў, сем Агафонаў, сем бесталковых. Абрыдла ім сядзець. Задумалі яны па свеце пагуляць, людзей паглядзець, сябе паказаць.

— Як, братцы, паедзем: па вадзе ці па зямлі?

— Па вадзе лепш.

Спусціліся Агафоны да ракі, селі ў лодку — давай грэсці. Адны *ўправа* грабуць, другія — *улева*. Не ідзе лодка *ні туды*, *ні сюды* — стаіць на месцы.

Спужаліся Агафоны:

— Відаць, нехта нашу лодку трымае!

Пачуў іх рыбак, гаворыць ім:

— Эх вы, мякінныя галовы! Ды калі вы будзеце ў розныя бакі веславаць — лодка век з месца не зрушыць. Усе ў адзін бок вяслуйце...

Спішыце тэкст. Вусна растлумачце лексічнае значэнне падкрэсленых слоў. Вусна перакажыце казку, выкарыстоўваючы антонімы.

### Стол даведак

Словы з казкі *ўправа — улева*, *ні туды — ні сюды* — гэта словы-антонімы. Яны розныя па гучанні, абазначаюць супрацьлеглыя паняцці.

### Гэта цікава!

**74.** Складзіце з кожным антонімам словазлучэнні, растлумачце значэнні слоў-антонімаў.

Вялікі — малы, вялікі — нікчэмны.
Добры — дрэнны, добры — злы.
Гарачы — памяркоўны, гарачы — халодны.
Свежы — чэрствы, свежы — брудны.
Тонкі — тоўсты, тонкі — нявыхаваны.
Прамы — крывы, прамы — хітры.

### Давайце паразважаем

**75.** Спішыце тэкст. Падкрэсліце антонімы. Якую ролю выконваюць антонімы ў тэксце песні?

Ах ты, сонца-сонейка,
Я на цябе віну ма́ю
Віну ма́ю вялікую:
Што ты раненька ўсходзіш,
Што ты позненька заходзіш.
Ах ты, дзеўка-дзеванька,
Не вінуй жа ты мяне,
Вінуй жа свайго пана:
Хоць я раненька ўзыду,
Цябе на ніўцы знайду,
Хоць я позненька зайду,
Цябе на ніўцы пакіну.

### Вясёлы перапынак

**76.** Складзіце антанімічныя пары са словамі.
Узор: *добры — злы, зацікаўлены — абыякавы.*

Скупы, лянівы, маўклівы, вясёлы.

### Выпраўляем памылку

**77.** Вызначце, якое слова лішняе ў кожным радзе.

Горача, светла, холадна.
Блізкі, далёкі, добры.
Выліць, наліць, падліць.
Адважны, баязлівы, страшны.
Лёгкі, мяккі, цвёрды.
Весялосць, радасць, сум.
Актыўнасць, лёгкасць, пасіўнасць.
Бодры, змучаны, ласкавы.

### Мы даследчыкі

**78.** У якіх значэннях выступаюць словы *моцны* і *мяккі* ў прыведзеных спалучэннях? Падбярыце да іх антонімы і запішыце.

Моцнае сэрца — ..., моцная дружба — ..., моцны вучань — ..., мяккі голас — ..., мяккі чалавек — ..., мяккае пакаранне — ... .

### Спроба пяра

**79.** Напішыце сачыненне-разважанне на тэму «Станоўчыя і адмоўныя рысы характару чалавека».

**Словы для даведак:** *шчырасць*, *адказнасць*, *дабрыня*, *ласкавасць*, *ветлівасць*, *выхаванасць*, *надзейнасць*, *шчодрасць*; *недобразычлівасць*, *ненадзейнасць*, *сквапнасць*, *зайздрасць*.

## Роля фразеалагізмаў у маўленні

### Успомнім

Устойлівыя непадзельныя спалучэнні слоў, якія існуюць у мове як адно сэнсавае цэлае, называюцца фразеалагізмамі.

Мноства фразеалагізмаў свабодна звязваюцца ў сказе з іншымі словамі, напрыклад: Сядзелі абодва *плячо ў плячо* і як чужыя (*З. Бядуля*). Яны, простыя дзеці вёскі, зразумелі з усяго гэтага *пятае праз дзясятае* (*З. Бядуля*).

### Вясёлы перапынак

**80. А.** Падбярыце словы-сінонімы да фразеалагізмаў.

Малоць глупства — ... .
Пускаць туман у вочы — ... .
Блізкі свет — ... .
Як карова языком злізала — ... .

**Б.** Падбярыце фразеалагізмы-сінонімы, антонімы. Напрыклад: *рукой падаць — блізкі свет.*

Хоць вока выкалі — ... .
Хоць да раны прылажы — ... .

### Лінгвістычны каментарый

Прыказкі — устойлівыя спалучэнні, якія не ўступаюць у сказе ў сувязь з іншымі словамі, па форме з'яўляюцца закончанай сінтаксічнай адзінкай — сказам: *Хто дбае, той і мае.*

Блізкія да прыказак — прымаўкі: *Грыбоў было ў лесе — хоць касою касі*. Вылучым прымаўку *хоць касою касі*; растлумачым значэнне: «вельмі многа». Прымаўкі, як і прыказкі, падобныя па форме да сказаў, але вылучаюцца незавершанасцю. Параўнаем: *Пасадзі свінню за стол,*

*а яна і ногі на стол. Чужое дабро бярэ за рабро* (Прыказкі). *Хоць сядзі і плач. Пасля дожджыку ў чацвер* (Прымаўкі).

Шмат трапных выслоўяў створана пісьменнікамі, вучонымі. *Забілі зайца, не забілі, але ж, брат, гуку нарабілі* (Я. Колас). *Гуслям, княжа, не пішуць законаў* (Я. Купала). *Пад кола, жаба, не падлазь. Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы* (К. Крапіва).

### Трэба падумаць

**81.** Спішыце. Падкрэсліце фразеалагізмы са станоўчым эмацыянальным значэннем.

Лёгкая рука, адбіцца ад рук, лынды біць, гарэць у руках, малоць лухту, запасці ў душу, паказаць зубы, як мокрае гарыць, валіць з хворай галавы на здаровую, верай-праўдаю, кінуць-рынуць, молада-зелена, ходырам хадзіць, як вадою змыла.

### Спроба пяра

**82.** Напішыце сачыненне на тэму «Стрымаць слова».

Ці заўсёды трэба трымаць слова? Як адносяцца да тых, хто слова не трымае? Ці былі ў вас выпадкі, калі вы паабяцалі, а потым забыліся?

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. Што абазначае тэрмін *лексіка*?
2. Што вывучае лексікалогія?
3. Што такое лексічнае значэнне слоў?
4. Як можна вызначыць лексічнае значэнне слоў?
5. Ахарактарызуйце агульнаўжывальную лексіку і лексіку абмежаванага ўжывання.
6. Чаму ў мове ёсць устарэлыя словы і неалагізмы?
7. У выніку чаго ўзнікаюць запазычаныя словы ў мове?
8. Пералічыце прыметы запазычаных слоў.
9. Чым адрозніваюцца мнагазначныя словы і амонімы?
10. Што абазначае тэрмін *сінонімы*?
11. Для чаго выкарыстоўваюцца сінонімы ў тэкстах?
12. Што абазначае тэрмін *антонімы*?

13. Чым фразеалагізмы адрозніваюцца ад свабодных словазлучэнняў?

14. Чым фразеалагізмы адрозніваюцца ад прыказак і прымавак?

## Слоўнік

*Агульнаўжывальная лексіка* — лексіка, якую ведаюць і якой карыстаюцца ўсе носьбіты мовы;

*амонімы* — словы адной і той жа часціны мовы, якія аднолькава вымаўляюцца і пішуцца, але абазначаюць зусім розныя прадметы і з'явы: *аўсянка* (*птушка*) і *аўсянка* (*каша*);

*антонімы* — словы адной і той жа часціны мовы, якія маюць супрацьлеглае значэнне (*дзень* — *ноч*, *высокі* — *нізкі*, *круты* — *пакаты*);

*дыялектныя словы* — словы, якімі карыстаюцца не ўсе носьбіты мовы, а толькі жыхары пэўнай мясцовасці;

*запазычаныя словы* — словы, што прыйшлі з іншай мовы;

*лексіка* — усе словы пэўнай мовы;

*лексікалогія* — навука, што вывучае слоўнікавае багацце мовы;

*лексічнае значэнне слова* — тое, што слова абазначае (*дарога* — *паласа зямлі, прызначаная для таго, каб хадзіць і ездзіць па ёй*);

*мнагазначныя словы* — словы, якія маюць шмат значэнняў: *ісці* (*час ідзе*, *чалавек ідзе*), *бегчы* (*хлопец бяжыць*, *хвіліны бягуць*);

*неалагізмы* — словы, якія нядаўна ўзніклі ў мове;

*прафесійныя словы* — словы, якімі карыстаюцца людзі пэўнай прафесіі (*песцік*, *тычынка*, *суквецце*);

*сінонімы* — словы, якія абазначаюць адзін і той жа прадмет, з'яву, прымету, але пішуцца і гучаць па-рознаму (*мяцеліца*, *завіруха*, *пурга*);

*устарэлыя словы* — словы, якія зніклі з выкарыстання;

*фразеалагізмы* — устойлівыя спалучэнні слоў, якім уласціва пэўнае значэнне.

# МАРФЕМНАЯ БУДОВА СЛОВА І СЛОВАЎТВАРЭННЕ

## Змяненне і ўтварэнне слоў

### Давайце параўнаем

**83.** Размяжуйце паняцці «ўтварэнне слоў» і «змяненне слоў» з дапамогай табліцы.

| Аднакаранёвыя словы | Формы аднаго і таго ж слова |
|---|---|
| Лексічнае значэнне слоў рознае | Значэнне слоў не змяняецца |
| Адрозніваюцца суфіксамі, прыстаўкамі, якія надаюць словам іншае лексічнае значэнне | Адрозніваюцца канчаткамі |
| Належаць да адной ці розных часцін мовы | Адна часціна мовы |

### Мы даследчыкі

**84.** Выкарыстоўваючы табліцу, ахарактарызуйце словы *агонь — агністы*, *зямля — зямлі*, *лес — ляснік*, *валасы — безвалосы*.

### Давайце паразважаем

**85.** Выпішыце формы аднаго і таго ж слова ў адзін слупок, а аднакаранёвыя словы — у другі. Свой выбар абгрунтуйце.

Шчасце — шчаслівы, спяваю — спяваеш, школа — школьны, каса — касою, каса — касіць.

### Правяраем сябе

**86.** З прапанаванага тэксту выпішыце спачатку розныя граматычныя формы адных і тых жа слоў, а потым аднакаранёвыя словы.

Ціха і ўрачыста ў зімовым лесе. Высакастволыя хвоі ў белых шапках і заснежаныя яліны стаяць задуменна і важна. Прамяні скупога зімовага сонца, прабіваючыся праз цяжкія шэрыя хмары, надаюць лесу казачны выгляд.

У серабрыста-блакітнай смузе стаяць дрэвы. Мякка падаюць пухкія сняжынкі, зіхоткімі зоркамі асядаючы на зямлю. Цяжкая снегавая шапка, сарваўшыся раптам з дрэва, гучна тоне ў высокай гурбе. І зноў цішыня і казка (*Паводле А. Курскова*).

**Спроба пяра**

**87.** Напішыце працяг тэксту, выкарыстоўваючы розныя граматычныя формы адных і тых жа слоў, а таксама аднакаранёвыя словы. Граматычныя формы адных і тых жа слоў падкрэсліце адной рыскай, а аднакаранёвыя словы — дзвюма.

**Першыя крокі восені**

Дзень быў ясны, а паветра крыштальнае і чыстае. Такім яно бывае толькі ў асобныя дні верасня. Восень робіць першыя крокі, пасылаючы на зямлю лёгкі, бадзёры халадок...

## Марфемная будова слова. Корань слова — агульная частка роднасных слоў. «Знайдзіце сваякоў» — аднакаранёвыя словы і формы аднаго і таго слова

**Стол даведак**

Марфемы — гэта значымыя часткі слова: аснова, канчатак, корань, прыстаўка, суфікс.

З дапамогай прыставак і суфіксаў можна ўтварыць новае слова ці надаць слову тое ці іншае адценне (указаць на памер прадмета, меру якасці, выказаць свае адносіны да прадмета). Напрыклад, *школа*, *школьны*, *прышкольны*.

Прыстаўкі і суфіксы выконваюць словаўтваральную функцыю, але адрозніваюцца становішчам адносна кораня.

Усе роднасныя словы маюць агульную частку — аднолькавы корань (у корані могуць быць чаргаванні, напрыклад, *лес*, *ляс*нік).

Канчатак — марфема зменная і служыць для сувязі слоў у сказе: *На сталe ляжалі кветкі. Гэтаму сталу дзесяць гадоў. За святочным стал*ом *сабралася ўся сям'я.*

## Давайце паразважаем

**88.** Ахарактарызуйце значэнне суфіксаў у выдзеленых словах народнай песні, а таксама вымаўленне і напісанне выдзеленых слоў.

Ах ты, сонца-*сонейка*,
Я на цябе віну ма́ю,
Віну ма́ю вялікую:
Што ты *раненька* ўсходзіш,
Што ты *позненька* заходзіш.

## Гульня «Знайдзіце сваякоў»

**89.** Спачатку выпішыце словы з коранем, які мае значэнне «нос», а потым — словы, корань якіх мае значэнне «насіць».

**Словы для гульні**: *адносіць*, *данос*, *даўганосік*, *занос*, *нанос, насавы*, *насаглотачны*, *насаты*, *насаглотка*, *насілкі*, *насоўка*, *насы*, *носік*, *ношка*, *паднос*, *пераноc*, *пераносіца*, *разносчык*, *узнос*.

## Самастойная работа

**90.** Знайдзіце ў загадцы аднакаранёвыя словы. Якую ролю адыгрываюць у іх марфемнай будове прыстаўкі? Зрабіце марфемны разбор выдзеленых слоў.

Жаданы госць яна заўсёды
На *палетках* нашых.
Зацвіце —
*Адорыць* мёдам,
Адцвіце —
Блінамі, кашай.

*М. Пазнякоў.*

Параўнайце аднакаранёвыя словы па сэнсе і марфемнай будове. Вызначце, якая марфема надае слову супрацьлеглае значэнне.

## Спроба пяра

**91.** Складзіце сказы са словамі з аднолькавымі прыстаўкамі:

| | |
|---|---|
| | пісаць |
| *за-* | несці |
| | браць |
| | ... |

## Вясёлы перапынак

**92.** Падбярыце аднакаранёвыя словы па схеме, выявіце іх лексічнае значэнне і марфемную будову:

| | | |
|---|---|---|
| | ок | невялікі лес |
| (я) | ны | ... |
| лес | нік | ... |
| | нічы | ... |
| | ніцтва | ... |

## Мы даследчыкі

**93.** Прачытайце тэкст. Назавіце асновы і канчаткі ў выдзеленых словах.

### Надвячорак у бары

*Бор* пачынаецца з берага стройнымі соснамі, якія *ўтвараюць* суцэльную сцяну, калючую з сіва-зялёным верхам макавак, што *выскачылі* за сёлетні год. Гэта яшчэ маладыя *сасонкі*, але яны ўжо дружна ўзняліся ўгору. Унізе пад імі густа ўслана *шашальнікам* і рыжымі іголкамі. Праз такую шурпатую посцілку прабіваецца травіца. А дзе промні сонца *пранікаюць* да самага долу, чырванее сунічка. Месцамі туляцца кусты *чарнічніку*.

Калючая сцяна, дзе вусце дарогі, ледзь-ледзь расступілася. Між *збуялага* ляшчэўніку — вялікая прасохлая лужына з глыбокімі каляінамі, што *выпаўзаюць* з лясных нетраў. Туды, углыб, і канца няма ёй, гэтай дарозе, як і няма краю-канца ўшыркі яму, бору (*І. Грамовіч*).

**94.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. Выдзеліце канчаткі назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў.

### Настрой

Дз..муў асенні вецер. Галінкі дрэ..ца стукаліся ў маё акно. Яны з..іналіся і выглядалі кволымі, слабымі. «Дрэ..ца падрасло за лета, — адзнач..ла ў думках. — Я — у пакоі, а яно — адзін на адзін з сумнымі, глухімі гукамі с..ыхіі».

**95.** Прачытайце тэкст. Вызначце, ці з'яўляюцца выдзеленыя словы формамі аднаго слова або аднакаранёвымі словамі. Зрабіце марфемны разбор падкрэсленых слоў.

За год перад вайной на адным з ленінградскіх вакзалаў *выйшаў* з вагона няраслы сціплы хлопец. *Ішоў* хлопец па шумлівым праспекце, па тратуарах, запоўненых рухавымі людзьмі, ішоў не спяшаючыся, няўпэўнена азіраючыся. Кожнаму сустрэчнаму чалавеку няцяжка было заўважыць, што хлопец у горадзе ўпершыню, што тут для яго ўсё новае, нязвычнае.

Тады, вядома, ніхто і не здагадваўся, што гэтаму сціпламу хлопцу з ціхай беларускай вёсачкі пад Магілёвам наканавана стаць адным з самых славутых абаронцаў Ленінграда, звязаць назаўсёды сваё кароткае жыццё з жыццём вялікага горада. Амаль адразу з вучнёўскай лаўкі, са школы фабрычна-заводскага навучання *пайшоў* Федзя Смалячкоў на фронт, што падступіў да самых ускраін горада. Хлопец зрабіў усё, каб затрымаць, не прапусціць ворага ў горад. У дождж і мароз выходзіў хлопец са снайперскай вінтоўкай, гадзінамі пільна ўглядаўся ў пярэдні край праціўніка. Забіўшы звыш сотні варожых салдат, хлопец загінуў сам, абараняючы Ленінград, які стаў яму родным, абараняючы некалі далёкія паўночныя далі (*І. Мележ*).

### Вясёлы перапынак

**96.** Выпішыце словы ў наступным парадку: а) са значэннем асобы; б) са значэннем сукупнасці аднародных прадметаў; в) са значэннем «набываць пэўную прымету». Абазначце суфіксы, з дапамогай якіх выражаюцца гэтыя значэнні.

Сасна — сасоннік, груз — грузчык, асіна — асіннік, чырвань — чырванець, трактар — трактарыст, кантрабас — кантрабасіст, гітара — гітарыст, хвоя — хвойнік, зялёны — зелянець, белы — бялець, чорны — чарнець, гумар — гумарыст, цымбалы — цымбаліст.

**97.** Утварыце словы з дапамогай прыставак *пад-*, *пера-*, *за-*.

Ехаць, пісаць, гаварыць.

**98.** Прачытайце тэкст і назавіце прыстаўкі ў словах.

Месца тут няроўнае, узгоркавае. Некалі ў дагістарычны перыяд магутная рака намыла гэтыя высокія пясчаныя

дзюны, на якіх пасля разумныя людзі пасадзілі невялікі лес. Потым ён разросся. На грабянях узгоркаў цяпер раслі адны сосны, зусім не старыя, роўныя, высокія, чыстыя, адна ў адну. Адвячоркавае сонца залаціла іх медныя ствалы. Лёгкі вецер гойдаў іх гнуткія верхавіны, за якія, здавалася, чапляліся лёгкія хмары. На зямлі ляжалі дзівосныя карункі святла і ценяў.

У нізінах побач з соснамі раслі дубы. Зрэдку віднеліся невысокія бярозы. Яны загушчалі лес, і на зямлі ляжаў густы цень (*Паводле І. Шамякіна*).

### Спроба пяра

**99.** Напішыце сачыненне на тэму «Надыход восені». Падкрэсліце пяць слоў, у якіх ёсць прыстаўкі. Якое значэнне надаюць гэтыя марфемы словам.

## Утварэнне слоў. Спосабы ўтварэння слоў: прыставачны, суфіксальны, прыставачна-суфіксальны; складанне асноў

### Успомнім

Словы ў беларускай мове могуць утварацца 1) з дапамогай прыставак (прыставачным шляхам), напрыклад, *ісці — зайсці*; *пісаць — перапісаць*; *горад — прыгарад*; 2) з дапамогай суфіксаў (суфіксальным шляхам), напрыклад, *лес — лясны*; *кастрычнік — кастрычніцкі*; 3) з дапамогай прыставак і суфіксаў (прыставачна-суфіксальным шляхам), напрыклад, *лес — пералесак*, *гара — узгорак*; 4) без суфіксаў і прыставак, напрыклад, *пераходзіць — пераход*; 5) шляхам складання асноў, напрыклад, *земл+я+мер*, *светл+а+вокі*, *земл+е+карыстанне*.

**100.** Прывядзіце па два-тры прыклады слоў, утвораных прыставачным, суфіксальным, прыставачна-суфіксальным спосабамі, а таксама шляхам складання асноў.

**101.** Вызначце спосаб утварэння слоў.

Вадаспад, мышалоўка, падабраць, лужок, турпаход, дубняк, выкладчык, весялун, хітрун, сасняк, абагнаць, разбагацець, разабраць.

## Давайце паразважаем

**102.** Ад чаго і пры дапамозе чаго ўтвораны выдзеленыя словы? Назавіце спосаб іх утварэння.

*Ільняная* і *жытнёвая*.
*Сялянская*.
*Баравая* ў *казачнай* красе.
*Старажытнейшая*,
Самая славянская.
Светлая, як травы ў расе.
*Вобразная*, *вольная*, *пявучая*.
Мова беларуская мая.

*П. Панчанка.*

## Мы даследчыкі

**103. А.** Вызначце спосаб утварэння выдзеленых слоў у тэксце.

Родная маці! Колькі *паэтычных* радкоў напісана пра яе. Колькі складзена песень! Але нават гэты *незвычайны шматтомнік*, створаны *стагоддзямі*, не можа поўнасцю раскрыць *каларытны* вобраз маці. Бо колькі матуль, столькі і *непаўторных* вобразаў. У кожнай з іх свая дабрыня і ласка, свая *строгасць* і *чуласць*, свае песні і асабісты кодэкс выхавання (*У. Ліпскі*).

**Б.** Знайдзіце ў тэксце словы, утвораныя прыставачным спосабам.

Мая маці, Надзея Васільеўна, нарадзілася ў 1893 годзе, у дзяцінстве засталася без маці, скончыла гімназію ў Магілёве, некаторы час працавала вясковай настаўніцай у вёсцы Збароў, ля Рагачова, а пасля пазнаёмілася з маім бацькам, Караткевічам Сямёнам Цімафеевічам, і ў 1917 годзе выйшла за яго замуж (*У. Караткевіч*).

**В.** Знайдзіце ў тэксце словы, утвораныя суфіксальным спосабам.

Я ніколі не бачыў такой вясёлай і шчаслівай сваю маму, як у гэты дзень. Яна апранула белую кофтачку, сінюю спаднічку, абула свае, яшчэ дзявочыя, чаравікі з высокімі халяўкамі. Маці спявала і танцавала разам з усімі (*І. Навуменка*).

## Спроба пяра

**104.** Напішыце сачыненне на тэму «Восенню ў лесе» з ужываннем складаных слоў *краявід*, *вадасховішча*, *своеасаблівы*, *штогод*, *рознакаляровы* і інш.

### Кантрольныя пытанні і заданні

1. Як размежаваць аднакаранёвыя словы і формы аднаго і таго ж слова?
2. Што абазначае паняцце «марфема»?
3. Для чаго служаць прыстаўкі, суфіксы?
4. Якія словы называюцца роднаснымі?
5. Для чаго служаць канчаткі?
6. Пералічыце і ахарактарызуйце спосабы ўтварэння слоў у мове.

### Слоўнік

*Аднакаранёвыя словы* — словы, якія маюць аднолькавы корань;

*аснова слова* — частка слова без канчатка, у якой заключана канкрэтнае лексічнае значэнне;

*канчатак* — зменная значымая частка слова, якая служыць для сувязі слоў у словазлучэнні або сказе (*прыгож-ая дзяўчына*, *прыгож-ай дзяўчыне* і г. д.);

*корань* — агульная частка роднасных (аднакаранёвых) слоў (*лета* — *летні* — *улетку*);

*марфема* — гэта значымая частка слова: аснова, канчатак, корань, прыстаўка, суфікс;

*прыстаўка* — гэта значымая частка слова, якая стаіць перад коранем і служыць для ўтварэння новых слоў (*чытаць* — *прачытаць* — *перачытаць*, *вычытаць*).

# СЛОВА Ў СЛОВАЗЛУЧЭННІ І СКАЗЕ

## Слова ў словазлучэнні. Галоўнае і залежнае словы ў словазлучэнні

**105.** Прачытайце. Выпішыце словазлучэнні з выдзеленых сказаў.

Месца тут няроўнае, узгоркавае. Некалі ў дагістарычны перыяд магутная рака намыла гэтыя высокія пясчаныя

дзюны, на якіх пасля разумныя людзі пасадзілі невялікі лес. Потым ён разросся. На грабянях узгоркаў цяпер раслі адны сосны, зусім не старыя, роўныя, высокія, чыстыя, адна ў адну. *Адвячоркавае сонца залаціла іх медныя ствалы. Лёгкі вецер гойдаў іх гнуткія верхавіны. За верхавіны чапляліся лёгкія хмары. На зямлі ляжалі дзівосныя карункі святла і ценяў.*

У нізінах побач з соснамі раслі дубы. Зрэдку віднеліся невысокія бярозы. Яны загушчалі лес, і на зямлі ляжаў густы цень (*Паводле І. Шамякіна*).

### Вясёлы перапынак

**106.** З наступнымі словамі пабудуйце словазлучэнні. Вызначце галоўнае і залежнае словы ў іх.

Цікавы, кніга; каша, з, грэчка; дэлегат, з'езд; урок, музыка; даліна, рака.

### Спроба пяра

**107.** Удакладніце з дапамогай залежнага слова значэнне прыведзеных ніжэй слоў.

Узор: *хата — вясковая хата.*

Хата, ручай, мінулае, сонца, газета, вільгаць.

### Працуем перакладчыкамі

**108.** Перакладзіце на беларускую мову.

Ехать в город, болеть гриппом, пишите письма, внимательно слушать.

## Слова ў сказе. Апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя сказы. Клічныя сказы. Знакі прыпынку ў канцы сказа. Будова сказа. Галоўныя члены сказа: дзейнік і выказнік. Даданыя члены сказа — дапаўненне, азначэнне, акалічнасць

### Творчая работа

**109.** Прачытайце тэкст. Ператварыце два першыя простыя сказы ў адзін складаны. Спішыце тэкст. Падкрэсліце аснову і даданыя члены сказаў.

Густы цёмна-зялёны ячмень з сінім налётам фанабэрыста распускае пышныя вусы. Авёс шамаціць галінкамі. Доўгімі зялёнымі шнурамі выцягнулася бульба. Толькі расплюшчвае вочы лён... (*П. Броўка*).

**110.** Спішыце тэкст. Падкрэсліце азначэнні і акалічнасці. Устаўце прапушчаныя літары.

За акном сутонела. Сва.. апошнія в..чэрнія песні дапявалі птахі. Недзе далёка-далёка гуў грузавік, і па яго адзінокім гудзе выразна чулася ўся сцішаная прастора палёў.

Надзея Іванаўна ўключыла прыёмнік. Абазваліся, тонка запелі струны, і вольна паліўся му..чынскі голас, журботны і адначасова не..кі суровы і ту..лівы. Заспяваў пра поле, роднае поле (*М. Вышынскі*).

**111.** Прыдумайце сказы а) па мэце выказвання — апавядальныя, пытальныя, пабуджальныя, б) па інтанацыі — клічныя і няклічныя.

## Правяраем сябе

**112.** Вызначце сказы па мэце выказвання і інтанацыі. Устаўце прапушчаныя літары.

1. У 1941 годзе пры..шла ў наш дом бяда: пачалася вайна. Колькі гора, пакут яна прын..сла нашым людзям! 2. Вадзік з усіх сіл шмаргануў вудзільна. Вось н..шчасце — зачапіўся кручок! (*М. Гамолка*).

## Давайце паразважаем

**113.** Прачытайце тэкст. Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. Ці з’яўляецца выдзелены сказ развітым? Дакажыце сваю думку.

А як добра ў ч..рвені ў ж..тным! *Гамоня..ь і гамоня..ь пад ціхімі павевамі ветру лё..кія яшч.. каласы з жоўтымі пя..чотнымі завушніцамі на іх.* Яны нібы ця..нуцца да празрыстага неба і просяць спагады ў прыгожыя часы свайго красава..ня. І хоць няма ні з..рняці ва ўсім гэтым хвалюючым моры, а ўжо ч..ецца ледзь-ледзь хлебны пах, які так прыемна казыча ноздры (*П. Броўка*).

**114.** Прыдумайце сказы з акалічнасцямі месца, часу, спосабу дзеяння, якія б адказвалі на пытанні *дзе? куды? адкуль? калі? як?*.

### Спроба пяра

**115.** Напішыце сачыненне на тэму «Летнія канікулы», шырока выкарыстоўваючы клічныя сказы.

## Сказы з аднароднымі членамі, знакі прыпынку

**116.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце ў тэксце сказы з аднароднымі членамі. Абгрунтуйце свой выбар.

**Беларуская хата**

Зойдзем у хату, якой яна была яшчэ нядаўна, а часам сустракаецца і зараз.

Выгляд яе для кожнай мясцовасці быў розны. Але найбольш тыповы быў такі. Ля ўвахода месца для мыцця пасуды і іншых кухонных рэчаў. Пасля — печ. За печчу — нары. Пад імі складалі розныя рэчы. Часам замест нар стаялі шырокія ложкі. Уздоўж астатніх дзвюх сцен ішлі шырокія лавы, пакрытыя тканымі налаўнікамі. На іх сядзелі. Ноччу на лавах маглі спаць, асабліва калі бывалі госці.

Перад лаўкамі — стол. Заўсёды дужа белы, бо яго часта скрэблі нажом. Стол і лаўкі часцей за ўсё былі з тоўстых дубовых дошак.

Упрыгожвалі хату тканыя посцілкі і ручнікі. На іх звычайна пераважае вясёлка і жоўты, чырвоны, сіні, блакітны і іншыя колеры.

Прыгожа і ўтульна было! (*Паводле У. Караткевіча*).

**117.** Прыдумайце сказы з абагульняльнымі словамі перад аднароднымі членамі. Растлумачце знакі прыпынку ў сказах.

### Спроба пяра

**118.** Стварыце тэкст па прапанаваным пачатку, выкарыстоўваючы аднародныя члены сказа і абагульняючыя словы пры іх.

Да чаго прыгожая летняя раніца! У паветры яшчэ сыра...

## Сказы са звароткамі, інтанаванне, знакі прыпынку

### Успомнім

Зваротак — гэта слова або спалучэнне слоў, якія называюць асобу або прадмет, да якіх звяртаюцца ў размове. Зваротак не з'яўляецца членам сказа. Зваротак выдзяляецца на пісьме коскамі. У пачатку сказа зваротак можа вымаўляцца з клічнай інтанацыяй. У такім выпадку пасля звaротка ставіцца клічнік.

### Мы даследчыкі

**119.** Знайдзіце ў тэкстах літаратурных твораў сказы са звароткамі. Растлумачце знакі прыпынку ў гэтых сказах.

**120.** Прачытайце тэкст. Якую ролю выконвае зваротак у тэксце?

Я стала часцей прыязджаць у вёску, каб дапамагчы сваякам у нялёгкай сялянскай працы. І кожны раз у двор прыбягаў суседскі сабака за гарадскім пачастункам: цукеркай, салодкай булачкай ці іншым прысмакам. Удзячны за пачастунак, ён падоўгу ляжаў дзе-небудзь у двары, не замінаючы нам працаваць. Працы было столькі, што нават клічкі сабакі я не спытала.

Неяк надвячоркам стала збірацца дамоў. Ісці на аўтобусны прыпынак трэба было ў суседнюю вёску, да якой шэсць кіламетраў. Як толькі я выйшла за вароты, убачыла: далёка ўперадзе бег суседскі сабака. Падумала: ён крышку праводзіць мяне, а потым вернецца ў вёску. Але ішла далей, а сабака бег наперадзе, не набліжаючыся да мяне, бо ведаў, што буду сварыцца, праганяць ад сябе, прымушаць вярнуцца. Выгляд у яго быў гарэзлівы: хвост трубой і нават вочы мне здаваліся вясёлымі, хоць гаворáць, яны ў сабак заўсёды сумныя. Я перабрала ў памяці мноства клічак, называючы сабаку.

Бобік! Барсік! Мухтар!.. Ён паверне да мяне галаву, крутне ёю і свавольна прадаўжае свой бег.

Паказаліся аколіцы вёскі, куды прыходзіў аўтобус. І раптам сабака наблізіўся да мяне, бег, сцішаны, побач.

Пачулася рознагалосае браханне вясковых сабак, што выбягалі амаль з кожнага двара і з пагрозай кідаліся да майго сабакі. Наперадзе я ўбачыла маўклівую чорную вялізную аўчарку. Мой сабака, звычайны дварняк, больш не свавольнічаў, бег побач са мной як шаўковы. А я падумала: сяду ў аўтобус і паеду; як жа будзе ён вяртацца ў сваю вёску адзін праз гэтую сабачую зграю на чале з чорнай аўчаркай? Якое ў майго дварняка залатое сэрца, што так аддзячыла мне за мае сціплыя пачастункі? (*З сачынення вучаніцы*).

**Гэта цікава!**

**121.** Складзіце сказы са звароткамі па наступных схемах.

*З, ... .  З! ... .*
*..., з, ... . ... , з!*

**Канструктарскае бюро**

**122.** Перабудуйце сказы ў пытальныя, каб выдзеленыя словы сталі звароткамі.

1. *Алесь* любіць гуляць у хакей. 2. *Каця* займаецца музыкай. 3. *Сябры* дапамаглі мне ўладкавацца на працу. 4. *Дзеці* разам выконвалі дамашнія заданні.

**Спроба пяра**

**123.** Напішыце міні-сачыненне на адну з тэм (на выбар): «Да пабачэння, лета!», «Добры дзень, школа!», «Восень, я люблю цябе...». Пры напісанні сачынення выкарыстоўвайце звароткі.

## Простая мова, яе афармленне на пісьме. Дыялог. Афармленне дыялога

**Давайце паразважаем**

**124.** Прачытайце тэкст. Растлумачце знакі прыпынку.

### Курган Славы

Аднойчы да дзядулі Антона прыехаў з Масквы сябар. Яны разам вызвалялі ад фашыстаў Мінск. Паехалі ўсе на Курган Славы.

— Глядзіце, чатыры пікі на гары, — сказаў я.

— Гэта не пікі, а салдацкія штыкі. І стаяць яны на Кургане Славы. Некалі тут было роўнае поле. Потым на гэтым месцы людзі насыпалі курган. Мы з тваім дзядулем тут на адным танку ваявалі, — сказаў Сяргей Іванавіч.

Слава майму дзядулю і яго сябру! (*Паводле М. Парахневіча*).

### Пераказ

**125.** Перакажыце тэкст, захоўваючы простую мову.

Ціха і ўрачыста ў зімовым лесе. Але што гэта? «Цінь-цінь!» — раздаецца аднекуль зверху тонкі піск. Глядзім угару: мітусіцца, пырхае з галінкі на галінку сінічка ў чорнай шапачцы і з гальштучкам на шыі. Гэта гаічка. Піскнула яшчэ раз і знікла ў густой кроне яліны. Нечакана з другога боку пачуўся такі ж піск, і па ствале ўніз галавой хутка апускаўся попаўзень, таксама сінічка. А вось яшчэ адна птушачка: чорная шапачка, кароткі хвосцік, а на шыйцы — цёмны нагруднічак. Гэта сініца-маскоўка. Вось якая яна прыгожая! Натапырыла пёркі на галаве і пазірае то адным, то другім вочкам у наш бок (*Паводле А. Курскова*).

### Успомнім

Дыялог — гэта размова паміж дзвюма або некалькімі асобамі. Словы кожнай асобы пішуцца з новага радка з вялікай літары. Перад імі ставіцца працяжнік.

### Лінгвістычная гульня «Ці жартам, ці ўсур’ёз?»

**126.** Запішыце ў форме дыялога. Пастаўце знакі прыпынку.

1. Мама, крапіва кусаецца? Кусаецца. А як яна гаўкае?
2. У мяне сёння страшэнна трашчыць галава. Чаму ж трэску не чуваць?
3. Вось выпадзе снег, прыціснуць маразы... А я тады не пайду на вуліцу. Чаму? А каб мяне маразы не прыціснулі.

**127.** Да простай мовы падбярыце словы аўтара. Сказы запішыце.

1. «Заўтра будзе шэсць урокаў». 2. «Ці паспееш вывучыць урокі?» 3. «Ды ты сапраўдны майстар!» 4. «Як хараша

ў лесе!» 5. «Колькі будзе, калі да чатырох дадаць пяць?» 6. «Як пішацца гэтае слова?»

### Спроба пяра

**128.** Закончыце тэкст. Звярніце ўвагу на тое, якія знакі прыпынку ставяцца пры простай мове, калі яна пачынаецца з новага радка.

**Падвёў таварышаў**

Толькі настаўнік увайшоў у клас, адразу ўбачыў, што там робіцца нешта незвычайнае. Дзяўчаты і хлопчыкі акружылі некага і пра нешта горача і голасна шумелі, пра нешта спрачаліся. Гаворка была сярдзітая. Можна было здагадацца, што дзеці кагосьці дакаралі.

Заўважыўшы настаўніка, вучні сціхлі і павярнуліся да яго.

— Што здарылася? — запытаў настаўнік.

Усе маўчалі і пільна глядзелі на Сашу (*Паводле Б. Грынчанкі*).

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. Чым адрозніваецца словазлучэнне ад слова?
2. Як вызначыць галоўнае слова ў словазлучэнні?
3. Як звязваюцца галоўнае і залежнае словы ў словазлучэнні?
4. Як падзяляюцца сказы па мэце выказвання?
5. Як падзяляюцца сказы па інтанацыі?
6. Ахарактарызуйце дзейнік і выказнік як галоўныя члены сказа.
7. Ахарактарызуйце дапаўненне як даданы член сказа.
8. Ахарактарызуйце азначэнне як даданы член сказа.
9. Ахарактарызуйце акалічнасць як даданы член сказа.
10. Які сказ называецца развітым (неразвітым)?
11. Якія члены сказа называюцца аднароднымі?
12. Раскажыце пра знакі прыпынку пры аднародных членах сказа.
13. Для чаго ў мове выкарыстоўваецца зваротак?
14. Раскажыце пра простую мову і дыялог і знакі прыпынку пры іх.

## Слоўнік

*Аднародныя члены сказа* — члены сказа, якія адказваюць на аднолькавыя пытанні і адносяцца да аднаго і таго ж слова;

*азначэннем* называецца даданы член сказа, які абазначае прымету прадмета і адказвае на пытанні *які? чый?*. Напрыклад, *лес* (*які?*) *прыгожы*;

*акалічнасцю* называецца даданы член сказа, які абазначае месца, час, спосаб дзеяння і адказвае на пытанні *дзе? куды? адкуль? калі? як?*. Напрыклад, *вецер суняўся* (*калі?*) *пад вечар*;

*выказнік* — гэта галоўны член сказа, які абазначае, што гаворыцца пра дзейнік. Да выказніка можна паставіць пытанні *што робіць прадмет? хто ён такі? які ён?*;

*галоўныя члены сказа* — дзейнік і выказнік;

*даданыя члены сказа* — дапаўненне, азначэнне, акалічнасць — паясняюць галоўныя або іншыя даданыя;

*дапаўненнем* называецца даданы член сказа, які адказвае на пытанні ўскосных склонаў. Напрыклад, *лісце* (*чаго?*) *дрэў*;

*дзейнік* — галоўны член сказа, які абазначае, пра каго або пра што гаворыцца ў сказе. Да дзейніка можна паставіць пытанні *хто?* або *што?*;

*дыялог* — гэта размова паміж дзвюма або некалькімі асобамі;

*зваротак* — гэта слова або спалучэнне слоў, якія называюць асобу або прадмет, да якіх звяртаюцца ў размове;

*неразвіты сказ* — сказ, які складаецца толькі з асновы (галоўных членаў сказа);

*простая мова* — гэта чые-небудзь словы, перададзеныя без змен;

*развіты сказ* — сказ, у якім, акрамя асновы, ёсць адзін або некалькі даданых членаў;

*сказ* — гэта словы, звязаныя па сэнсе і граматычна. Сказам можа быць і адно слова;

*складаны сказ* — сказ з дзвюма і больш асновамі.

# ЗМЕСТ